*получную иконку... Лечащий врач ДРАБКИНА Надежда Матвеевна, она же и зав. 3-м отделением, заявила мне: "Вывешивание иконки и портретов таких людей, как академик САХАРОВ и генерал ГРИГОРЕНКО, противоречит общепринятому у нас образу жизни, а потому является* ***ненормальностью***".

*Безо всякого повода через день мне уже назначили нейролептики в таблетках... Для меня здесь создан настоящий тюремный режим. Из отделения никуда не выпускают. Запрещено давать читать мне книги, даже из тех, что есть в шкафу в отделении...*»

4. В. А. НЕКИПЕЛОВУ. 10 ноября 1977 г., из той же больницы.

«*Сегодня пишу Вам в четвертый раз, со слабой надеждой, что врачи хоть на этот раз отошлют. На Ваши вопросы не могу ответить, т. к. мне запрещено писать о режиме содержания, об отношении к себе и т.п.*

*Вы напомнили мне о Владимирской психушке. В сравнении с ней здесь есть свои плюсы, но есть и негативное, видимо, присущее всем заведениям такого рода в этой стране.*

*Так, недавно здесь умер некий ЯКУШЕНКО, после проведения ему спинномозговой пункции. Смерть не совсем обычная. По моему личному мнению, это скорее медицинское убийство — убийство, где трудно провести четкую грань между сознательным актом и преступной небрежностью персонала. Однако вдаваться в подробности этого случая не буду, иначе и это письмо врачи не пропустят*[36]*. Замечу только, что сей печальный факт произвел на местный медперсонал меньшее впечатление, чем разбитая чашка на свадьбе...*»

---

[36] *Письмо не было пропущено. Дошла его копия, с большими трудностями отправленная на волю окольным путем. (В. Н.)*

***

## Абаронная прамова М. Кукабакі[37]

Грамадзянін пракурор выказаў тут цікавае цьверджаньне: «Думай, але ня дзей». Вось у залі сядзіць грамадзянін Новікаў, ён сталяр. Як ён можа выявіць сябе, давесьці сваю кваліфікацыю? Відавочна, што ён павінен што-небудзь зрабіць: стол ці крэсла. Як-жа можна паказаць, што я думаю, выкаваць сваю думку? Відавочна, што дакладна гэтак-жа — дзеяньнем.

Я цьверджу, што сьветчаньні супраць мяне схвабрыкаваныя. Вось Барысаў Алег Іванавіч. Але ёсьць у яго слабасьць — ён лячыўся ад алкагалізму. На гэтую слабасьць і націснула КДБ. Кажуць, што ён дабраахвотна выдаў захоўваныя ў яго матар'ялы. Чаму-ж, калі чытаў «Архіпэляг ГУЛаг» (ён казаў тут), гэтую кнігу не аддаў у КДБ, а панёс бандэроль, нат нераспакованы, ня ведаючы, што ў ім ляжыць? Мой аналіз: працаўнікі КДБ узялі дый націснулі на яго: не дасі сьветчаньняў — зноў запраторым цябе ў лячыльна-працоўны прафілакторы. І ён даў. Зразумела, я не асуджаю Барысава сурова, бо ў кажнага ёсьць свая мяжа трываласьці.

Вось Новікаў Сяргей. Гэта вельмі добры чалавек, я мог-бы ўважаць яго за брата. Ён, калі я выйшаў у лістападзе 1977 году з псыхбальніцы ды апынуўся бязь месца ў інтэрнаце, бяз рэчаў, даў мне сваё паліто!.. Я думаю, як-жа магла здарыцца гэтак званая дабраахвотная выдача? Ды гэтак-жа, як і ў Барысава, — ня было яе. Я памятаю, як прыйшоў да яго, а ён сядзіць, трымае галаву ў руках: Ой, Міхась, усё прапала, усё! — Ды што прапала? Узялі, ці што? — Але. І я ня мог нічога зрабіць... — Ну вось, кажу, вось табе аркуш паперы, сядай — пішы, як усё было. — Ой, Міхась, — кажа, — я не магу. Гэта-ж значыць, мне трэба йсьці ў турму.

Але: я не ўважаю сябе за вінаватага. І катэгарычна пярэчу супраць выстаўленых мне абвінавачаньняў. Мае

---

[37] Беларус. 1980. Красавік (№ 296). С. 2.

перакананьні, мае артыкулы — вынік жыцьцёвага дазнаньня й глыбокіх роздумаў над тым, што адбываецца ў краіне. Яшчэ ў 1970 годзе я быў паддадзены рэпрэсіям за свае перакананьні ды правёў у зьняволеньні сем гадоў. За адмову ад супрацоўніцтва ў КДБ я быў прызнаны за ненармальнага ды пасаджаны ў спэцпсыхбольніцу. Але, гэты было ў Уладзіміры, старэйшы сьледчы Уладзімерскага КДБ маёр Яўсееў запрапанаваў мне даць сьветчаньні аб крымінальных сустрэчах із штатссакратаром пасольства Нямецкае Фэдэральнае Рэспублікі Мюлерам. За гэтае ён абяцаў мне свабоду. Гэта значыла схлусіць. Я падумаў: навошта? Дастану свае тры гады, як-небудзь пеpакідаюся, але не загублю душы, не заплямлю сумленьня. Я адмовіўся. Тады маёр Яўсееў і ськіраваў мяне на экспэртызу ў інстытут Сербскага. Дзяржава выявілася хітрэйшай! Мяне прызналі за ненармальнага, суд быў зачынены...

Разуменьне сваіх учынкаў — гэта й ёсьць перакананасьць. Мае перакананьні выпакутаваныя й цьвярдыя. І вы самі разумееце, што чалавек, які ўсё сваё жыцьцё праводзіць у турмах за перакананьні, ня можа быць злачынцам. Хачу зьвярнуць вашую ўвагу на тое, што суд нада мною супярэчыць Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Хачу зьвярнуць вашую ўвагу на тое, што йшчэ 16 красавіка 1977 году я прыняў цяжкую пастанову — выехаць з СССР. Я даўно прыйшоў да перакананьня, што камунізм савецкага ўзору становіць сыстэму прымусу й агульнага разбурэньня. Усе камуністычныя правадыры, пачынаючы ад Уладзімера Ульянава, праводзяць палітыку ўмешваньня ў справы іншых краінаў з мэтай пакінуць ім дыктатуру, падобную да свае.

Маскоўскія кіраўнікі могуць ня супыняцца й перад разгортваньнем новае вайны. Пра сталае рыхтаваньне да вайны кажа мілітарызацыя краіны, узгадаваньне жыхарства ў ваенна-патрыятычным духу, усеагульны вайсковы абавязак, розныя дзіцячыя гульні ды да гэтага падобнае. Пры гэтым улада імкнецца

зьнішчыць найменшую апазыцыю да ейных плянаў унутры краіны.

Што да падпісанае гэтымі днямі ўмовы СОЛТ із Злучанымі Штатамі Амэрыкі (суд над Кукабакай адбываецца 20–21 чэрвеня 1979 году), дык я ўважаю, што савецкі ўрад ніколі ня будзе трымацца гэтае ўмовы. Кантроль над абмежаваньнем зброі магчымы толькі шляхом спраўджваньня другім бокам на месцах. Гэта значыцца, нашыя спэцыялістыя паедуць у Амэрыку, а амэрыканскія — да нас: калі ласка, глядзеце.

Якая-ж можа быць умова, калі камень за ўлоньнем трымаць? Вось, скажам, некага вінавацяць, што ў яго крадзеныя рэчы ў валізцы; што гэты чалавек зробіць, калі ў яго нічога няма? Ён адчыніць валізку ды скажа: глядзеце! А наш урад якраз гэтага й ня хоча, ніяк ня хоча паказваць сваю валізку.

Я за распружаньне, за абмежаваньне зброі — усіх відаў зброі з абодвых бакоў. Мае бацькі загінулі ў мінулай вайне, мне, як нікому, патрэбнае распружаньне.

У выніку парваньня з камуністычнай ідэалёгіяй прыйшоў я да пастановы пакінуць СССР. Я ўважаю, што нат пражываньне ў гэтым краі — амаральнае. Бо, што я ні рабіў-бы, я — суўдзельнік ягонае палітыкі, ягонае мілітарызацыі, бо кажны рубель, які зараблю сваёй працай, ідзе на гэтую мілітарызацыю, якую я адкідаю.

***

**АС № 4723[38]. Михаил Кукобака, п/з. Письмо неизвестному адресату об условиях его содержания в тюрьме г. Ельца Липецкой обл.** (г. Елец, Липецкая обл., до 17.04.82)[39] — Материалы самиздата. Вып. 32/82. 20.09.82

---

[38] Копія дакумента захоўваецца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.

[39] *Перепечатан с фотокопии оригинала (от руки) из АС.*

Следствие продлено до 17 апреля. Никто никуда не вызывает, ни на какие допросы. Фактически «дело» по обвинению по ст. 190-1 УК РСФСР сфабриковано еще в сентябре 1981 г. Об этом мне признались сами сокамерники, которых вызывали работники ГБ и шантажом склоняли к лжесвидетельству против меня. При том брали с них слово, чтобы те не проболтались мне об этих «беседах». Если верить этим уголовникам, то их шантажировали возбуждением нового дела по старым «грехам» в случае отказа дать показания против меня. Показания давались едва ли не под диктовку. С их слов, один из ГБ приезжал из Москвы. У него какая-то легкая травма носа. Ну, это все мелочь.

С первого дня по прибытии в Елец[40] я попросил работника местной оперчасти содержать меня в одиночке во избежание возможности провокаций. Однако у них все было запланировано иначе. Меня поместили в камеру со специально подобранными людьми, в т. н. «пресс-хату». Вел я себя крайне сдержано, всячески избегая всяких споров, конфликтов.

Короче, избивая меня с угрозой искалечить или даже убить, уголовники КИСЕЛЕВ Владимир (около 30 лет), ГУКОВ Юрий и ЛОМАКИН Сергей (оба моложе 25 лет) стали требовать, чтобы я под их диктовку (образец у них уже был) написал т. н. «извинительное письмо», т. е. обращение к заключенным лагеря, из которого я прибыл. Я переписал текст, однако, пользуясь их неосведомленностью, написал в письме вымышленную фамилию нач. лагеря и исказил адрес.

Как только они передали это письмо нач. отряда ст. лейтенанту МАЛЫНУ Валерию Николаевичу, я тут же вызвался на беседу с ним. Подробно рассказал, как «выбивалось» это письмо, в доказательство указал на «ошибки» в письме и потребовал его уничтожить. Да-

---

[40] В тюрьму г. Ельца был переведен из лагеря в г. Новополоцке в мае 1981 («Вести из СССР», 1981, № 13/14:7).

лее, несмотря на уговоры, его и работника оперчасти л-та ЛАПТЕНКОВА, категорически отказался возвращаться в эту камеру. Довольно неохотно, но все же меня перевели в другую камеру. На следующий день написал протест на имя прокурора Липецкой области[41] (17 июня 1981 г.), однако за пределы тюрьмы заявление не вышло, попросту уничтожили, чтобы не фигурировало официально в моем деле. Все же, как я убедился позже, горпрокурор по надзору ГОМЕНЮК был осведомлен о моем заявлении.

Позже, уже когда был в санчасти в июле, я подробно рассказал эту историю приехавшему по своим делам сюда работнику обл. УИТУ[42] полковнику (кажется, ЯНОВ по фамилии). Никаких результатов это не дало. Нач. тюрьмы подполковник ТАРАСОВ на беседе в июле лишь заверил, что ко мне не будут больше применяться подобные меры. Как я убедился, все, что творилось и творится в этой тюрьме, давно известно областному и наверняка республиканскому УИТУ. Мало того, наверняка инспирировано неофициально ими. Проводится некий «Вологодский метод», когда самым отъявленным бандитам дают полную свободу рук в камерах с целью перевоспитания остальных и выполнения плана по работе. Здесь с благословения начальства творились страшные вещи.

Унижения человеческого достоинства без предела. Случаи мужеложества насилием — обычное явление. Немало из этой тюрьмы ушло физическими и психическими калеками, были случаи и прямого убийства, однако все «списывалось», и никто не понес ответственности! Кстати, Кирилл ПОДРАБИНЕК хотел поднять этот вопрос, но его упрятали снова[43].

---

[41] М. б. Б. Майоров, в 1975 — в должности («Изв.», 13.5.75).

[42] В тексте «облупр. УИТУ».

[43] О «пресс-камере» в связи с делом А. Подрабинека см. А.С. № 4212:2, 4230:5, 4268:2–3.

Как обычно, 30 октября и 10 декабря я проводил голодовки протеста: это было всегда, будет и впредь.

Спасибо за посылки и передачи. Следственным разрешается передавать и колбасы. А вот некоторые сорта конфет мне не передают. Говорят, что это витамины. А витамины относятся к лекарствам, которые запрещено получать заключенному.

Привет всем друзьям и знакомым. Кстати, еще в сентябре 1981 г. я получил краткое письмо-открытку из Дании, из Копенгагена.

М. КУКОБАКА[44]

***

## [Гутарка В. Крупскага[45] з Міхасём Кукабакам][46]

М. Кукабака: Я зь вялікай павагай стаўлюся да супрацоўнікаў Вашай рэдакцыі.

**В. Крупскі: Як Вы адчуваеце сябе на свабодзе? Колькі гадоў Вы правялі ў зьняволеньні, здаецца, гадоў васямнаццаць?..**

М. Кукабака: Не, крышку менш. Усяго разам я правёў шаснаццаць з палавінаю гадоў. У 1970 мяне пасадзілі, а два гады ў мяне перапынак быў. Значыцца, шаснаццаць з палавінаю гадоў усяго разам. Апошні раз я бесьперапынна сядзеў больш за дзесяць гадоў, гэта значыцца ад 18 кастрычніка 1978 г. і да другога сьнежня гэтага году.

---

[44] *Подпись. 16.4.82 переведен в Ин-т им. Сербского в Москве для судебно-психиатрич. экспертизы (Рейтер, 21.5.82, ст. П. Реддавея в газ. «Гардиан», 7.6.82).*

[45] Васіль Крупскі (сапр. Васіль Фрэйдкін), журналіст, быў карэспандэнтам беларускай, а потым рускай рэдакцыі Радыё «Свабода» ў Мюнхене, Нью-Ёрку.

[46] Гл: Кантакты: сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 73–77. Машынапіс захоўваецца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДМЛМ.

**В. Крупскі: Якія месцы зьняволеньня былі для Вас найцяжэйшыя?**

М. Кукабака: Трэба сказаць, самаму моцнаму ціску, можна сказаць, фізычнаму, мяне паддалі, калі я сядзеў у Наваполацкім канцлягеры Віцебскай вобласьці, гэта значыць у Беларусі. Тады ўсімі спосабамі хацелі вымусіць ад мяне пакаяльнага ліста з тым, каб я ўзьвёў паклёп на сваіх блізкіх сяброў і сам раскаяўся, «усьведаміў», як гэта яны ўважалі. Мне прапанавалі выклікаць карэспандэнта «Советской Белоруссии», каб ён памог ускласьці ліст, гэта значыць каб я публічна адмовіўся ад сваіх поглядаў. Дзеля гэтага яны мяне ўва ўсе штрафныя ізалятары цягалі, у ПКТ садзілі, надсылалі ў накрытую зачыненую турму, арганізоўвалі пабоі мяне крымінальнікамі (у Клецкай турме; там быў такі апэратыўнік капітан Маранчак) на заданьне мясцовага КДБ. Словам, ужывалі вельмі шмат мэтадаў.

Вельмі цяжкім таксама было зьняволеньне ў Пермскіх лягерах у 36-й зоне, гэта значыць ВС 389/36, які быў расфарміраваны летась. Там быў больш псыхалягічны ціск. Дзевятнаццаць месяцаў мне не давалі ліставацца, наагул, хоць я і ня быў пазбаўлены права ліставацца, але з розных выдуманых прычынаў мне не давалі пісаць лісты. Таксама саджалі ў карцары, саджалі ў ПКТ, гэта значыць у лягерную турму, за тое, што дамагаўся перагляду мае справы, хацеў дамагацца рэгабілітацыі. Вось такая была сытуацыя.

Апошнімі часамі ў сувязі зь вялікай падтрымкай міжнароднай грамадзкасьці стаўленьне да мяне стала больш спакойным, гэта значыць у карцары мяне не саджалі, апошнім часам перад вызваленьнем.

**В. Крупскі: Міхал, ці сустракалі Вы яшчэ якіх-небудзь палітзьняволеных зь Беларусі?**

М. Кукабака: Я на этапе выпадкова сустрэў Зайцава Вячаслава Кандратавіча зь Беларусі. Але ягонага лёсу я ня ведаю. Магчыма, яго дзе-небудзь у больніцу засадзілі. Вярталіся мы зь ім зь Інстытуту Сербскага. Далей я сказаў-бы, што ў Пермскіх лягерох ёсьць людзі

проста трагічнае долі. Я хацеў-бы сказаць пра людзей, засуджаных за гэтак званыя «ваенныя злачынствы». Гэта значыцца, што на самой рэчы — я глыбака перакананы — што бальшыня гэтых людзей не рабіла злачынстваў, хоць, магчыма, некаторыя й былі замешаныя.

Брэжнеў сваім часам падняў гэткую кампанію, што «ніхто не забыты, нічога не забыта». І некаторыя людзі, якія ўжо пры Сталіне адбылі зьняволеньне, гэта значыць, адразу-ж па вайне ўсё было расьсьледавана і ясна было, у якой ступені ён там мог супрацоўнічаць зь немцамі, іх зноў арыштоўвалі ў 70-х гадох і давалі па 15, па 10 гадоў дадаткова. У дачыненьні да гэтых людзей гэта трагічная сытуацыя. Некаторыя зь іх памерлі ў лягеры, так і ня выйшаўшы на свабоду. Гэта зусім безабаронныя былі людзі, зусім бездапаможныя. Іх бязупынку шантажавалі. «Калі Вы будзеце апратэстоўваць, будзеце змагацца, мы проста Вам новую справу складзём у моц нававыяўленых абставінаў»... Ёсьць такі мэтад шантажу, што «мы новую сфабрыкуем справу і прысудзім Вам расстрэл». І гэткіх беларусаў вельмі шмат у лягеры было. Гісторыя, бадай, яшчэ чакае на расьсьледаваньне вось гэтага злачынства камуністаў у дачыненьні да гэных людзей.

**В. Крупскі: Міхал, мы чыталі Вашыя працы, якія зьяўляліся ў самвыдавецтве. У аднэй зь іх Вы асуджалі палітыку моўнае русыфікацыі ў Беларусі. Відаць, гэтая палітыка спрычынілася таксама да таго, што Вы цяпер гаворыце з намі па-руску. Што-б Вы маглі сказаць на гэтую тэму?**

М. Кукабака: Зусім слушна. Я — ахвяра савецкае палітыкі русыфікацыі. Я яшчэ памятаю, калі быў у дзіцячым доме ў Беларусі, дык у нас некаторыя часапісы выходзілі ў беларускай мове, вывучалі крыху беларускую мову. Пасьля ў сямнаццаць гадоў павезьлі мяне ў Сібір на гэтак званую будоўлю камунізму, і я вярнуўся толькі ў 1976 г. пасьля зьняволеньня. Я заўважыў, што шмат што зьмянілася ня ў лепшы бок.

Русыфікацыя запраўды ў Беларусі ў самым шырокім маштабе праяўляецца. Дарэчы, у 1987 г., калі мяне вывозілі «ўгаворваць», каб я напісаў пакаяльны ліст і выйшаў на свабоду, я быў у Віцебскай турме і спэцыяльна кожны дзень слухаў радыё, сачыў [за навінамі]. І разумееце, на мой жаль, бачыў, што па-беларуску амаль ніхто не гаворыць. Нават дыктар радыё, і такое адчуваньне, што ён ня часта гаворыць па-беларуску. Беларускую мову ў існасьці знаюць можа толькі філёлягі ды дыктары, і, магчыма, некаторыя пісьменьнікі, якія спрабуюць, так сказаўшы, узьняць, ажывіць беларускую культуру. Я стаўся ахвярай гэтай русыфікацыі, на жаль.

**В. Крупскі: Міхал, у свой час Вы адмовіліся ад савецкага грамадзянства. Ці Вы й далей застаяцеся на гэткай-жа пазыцыі?**

М. Кукабака: Так, я застаюся на гэткай-жа пазыцыі. У 1977 г. я адмовіўся ад савецкага грамадзянства дзеля палітычных матываў, заявіў, што ня хачу нічога мець агульнага з камунізмам, не хачу быць саўдзельнікам ва ўсіх гэтых злачынствах. Я застаюся на гэтай пазыцыі, я буду дамагацца адкліканьня неабгрунтаванае пастановы ад 1977 г., у якой мне было адмоўлена ў маім дамаганьні пазбавіць мяне савецкага грамадзянства. Пакуль існуе камуністычны рэжым, пакуль існуе таталітарная сыстэма, я не хачу быць грамадзянінам гэтай дзяржавы. Таму што грамадзянства ў гэтым дачыненьні, прымусовае грамадзянства — гэта рабства. І грамадзянства дзяржавы, учынкі якое нельга прадказаць, якое робіць шкоду людзям, наўсуперак волі народу, гэта як-бы ўскосны ўдзел ува ўсім гэтым. Вось такая праблема.

**В. Крупскі: Міхал, у выніку новае палітыкі савецкага кіраўніцтва Вы выйшлі на свабоду. Што Вы думаеце аб палітыцы перабудовы і, у прыватнасьці, што Вы думаеце аб курсе Міхаіла Гарбачова, аб ім самім?**

М. Кукабака: Аб запраўдных намерах Гарбачова меркаваць, разумееце, даволі цяжка. Так, пачнем ад таго,

што я выйшаў на свабоду. Я ня думаю, што я выйшаў на свабоду выключна дзеля нейкіх новых гуманістычных тэндэнцыяў у савецкім грамадзстве. Не. Я думаю, я выйшаў на свабоду выключна ў моц вялізарнага ціску з боку заходняй міжнароднай грамадзкасьці, розных арганізацыяў, дзяржаўных палітыкаў, і сп. Рэйгана, і сп. Мітэрана[47], і Гэльмута Коля[48], шмат каго, вельмі многія людзі змагаліся за тое, каб нас выпусьцілі на свабоду. І Гарбачоў, і ягоны ўрад зацікаўленыя ў падняцьці эканомікі, бязумоўна, ва ўмацаваньні ня толькі эканамічнага патэнцыялу, але і абароннага патэнцыялу. І Захад у нейкай меры ставіў даваньне эканамічнай дапамогі, фінансавай у залежнасьці ад гуманітарных праблемаў. Я думаю, вось гэта й спрычынілася да таго, што Гарбачоў выпусьціў нас на свабоду. У падтрымку гэтага аргумэнту гаворыць і тое, што на працягу ўсіх гадоў я дамагаўся перагляду справы. Мне гэтак і ня было дазволена перагледзець маю справу.

Цяпер што да галоснасьці. У мяне такое адчуваньне, што галоснасьць праяўляецца толькі там, дзе й бяз гэтага ўжо ўсё ведама, як на Захадзе, гэтак і тут. Тамжа, дзе можна схаваць, там хаваюць. Там галоснасьці няма. Там пануе безгалоснасьць. А дзе проста немагчыма схаваць, там яны вымушаныя… прыкладам, друкаваць творы, выступаць, таму што з узмацненьнем абмену можна пераслаць на Захад, можна апублікаваць на Захадзе творы, як заўсёды гэта рабілі адважныя людзі. У гэтым выпадку яны дапушчаюць галоснасьць. Але я паўтараю: там, дзе можна прыхаваць, яны прыхоўваюць.

*[1989 (?)]*

---

[47] Франсуа Мітэран (фр. François Maurice Adrien Marie Mitterrand, 1916–1996), французскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, адзін з лідараў сацыялістычнага руху, прэзідэнт Францыі ў 1981–1995 гг.

[48] Гельмут Коль (ням. Helmut Josef Michael Kohl, нар. 1930), нямецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч, федэральны канцлер ФРГ у 1982–1998 гг.

# ХРОНІКА АБАРОНЫ МІХАСЯ КУКАБАКІ

*У гэтым раздзеле змяшчаюцца тэксты (артыкулы, звароты, зацемкі і інш.), звязаныя з дзейнасцю праваабарончых арганізацый і канкрэтных асобаў па вызваленні Міхася Кукабакі.*

## Беларускі іншадумец Міхась Кукабака[49]

Весткі пра Міхася (Міхала) Кукабаку, аўтара зьмешчанага ў гэтым нумары нашае газэты аўтабіяграфічнага нарысу «Ўкрадзеная Радзіма», узятыя з выдаванае ў Нью Ёрку выдавецтвам «Хроника» «Хроники текущих событий»[50] ды з выдаваных Радыём «Свабода» «Материалов Самиздата»[51].

Міхась Кукабака, Беларус, нарадзіўся ў 1936 годзе ў Бабруйску. Бацькі ягоныя загінулі ў часе вайны, баронячы савецкую ўладу. Міхась узгадоўваўся ў бабруйскім дзіцячым доме. Зь Беларусі выехаў у 17-гадовым веку. Прайшоў службу ў савецкай арміі.

За крытычныя выказваньні аб злаўжываньнях мясцовых уладаў і дэманстрацыйную адмову ад галасаваньня ўвесну 1969 году[52] быў пасаджаны ў Уладзімерскую

---

[49] Беларус. 1978. Ліпень–жнівень (№ 255–256). С. 1; Кантакты: сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 36–39.

[50] «Хроника текущих событий» — першы непадцэнзурны праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь у СССР. Выходзіў у 1968–1983 гг. і распаўсюджваўся праз самвыдат.

[51] «Материалы самиздата» — бюлетэнь, які выдаваўся на Радыё «Свабода» на падставе збірання непадцэнзурных тэкстаў з СССР ад пачатку 1970-х гг. да 1992 г.

[52] У сакавіку 1969 г. у СССР адбываліся выбары дэпутатаў Саветаў розных узроўняў.

турму[53], а тады — у спэцыяльную псыхіятрычную бальніцу, г. зв. псыхушку. У зьняволеньні, у розных месцах Савецкага Саюзу (але не на Беларусі), прабыў больш за шэсьць гадоў. З псыхушкі выпусьцілі Міхася Кукабаку (быў звольнены як «пляменьнік» ген. Пётры Грыгарэнкі) у травені 1976 году.

У жнівені 1976 году, як можна меркаваць з нарысу «Ўкрадзеная Радзіма», Міхась Кукабака вярнуўся на Радзіму ў Бабруйск ды пачаў там працаваць грузчыкам. Але ў кастрычніку таго-ж году ўзноў быў арыштаваны за пашырэньне Ўсеагульнае Дэклярацыі Правоў Чалавека ды пасаджаны ў Магілёўскую псыхіятрычную бальніцу.

Беспасярэдняй прычынай арышту й зьняволеньня Кукабакі гэтым разам паслужыла ягоная адмова зьняць павешаную над ложкам у сваім пакоі ў заводзкім інтэрнаце невялікую іконку, Усеагульную Дэклярацыю Правоў Чалавека ды партрэты акадэміка Андрэя Сахарава й гэнэрала Пятра Грыгарэнкі.

Міхася Кукабаку трымалі ў 3-м аддзеле Магілёўскае псыхіятрычнае бальніцы ў строгай ізаляцыі й бяз права выхаду з памешканьня. Лекарка, што лячыла яго, яна-ж і загадчыца аддзелу, Надзея Драбкіна, заявіла яму: *«Вывешваньне іконкі й партрэта гэткіх людзей, як акадэмік Сахараў і генэрал Грыгарэнка, пярэчыць агульнапрынятым нормам трыманьня й дзеля гэтага становіць ненармальнасьць»*. Драбкіна залічыла таксама да псыхічнае анамаліі жаданьне Кукабакі набыць партрэт Прэзыдэнта ЗША Картэра[54].

---

[53] Уладзімірская турма (або «Уладзімірскі цэнтрал») — расійская і савецкая турма, што была створана яшчэ ў XVIII ст. у горадзе Уладзіміры. Пасля Другой сусветнай вайны выкарыстоўвалася для ўтрымання асобаў, асабліва небяспечных паводле сваіх антысавецкіх сувязяў і варожай дзейнасці і мела назву «Владимирская тюрьма особого назначения МГБ СССР».

[54] Джымі Картэр (анг. James Earl “Jimmy“ Carter Jr., нар. 1924), амерыканскі палітык, 39-ы прэзідэнт ЗША (1977–1981).

У вабарону М. Кукабакі выступілі два іншадумцы (дысыдэнты) Віктар Някіпелаў і Аляксандар Падрабінак. Някіпелаў выслаў 15 кастрычніка 1976 году пракурору Магілеўскае вобласьці ліст з дамаганьнем *«зрабіць захады дзеля безадкладнага звальненьня М. Кукабакі»* як асобы, арыштаванае беспадстаўна. Падрабінак з гораду Электрасталь Маскоўскае вобласьці ад імя іншадумскае Работніцкае Камісіі зьвярнуўся 16 кастрычніка 1976 году зь лістом да галоўнага лекара Магілёўскае абласное бальніцы з копіяй ліста ў міністэрства аховы здароўя СССР. «Работніцкая камісія, — пісаў Падрабінак, — уважае прымусовую шпіталізацыю Кукабакі за прыклад выкарыстоўваньня псыхіятрыі ў рэпрэсыўных палітычных мэтах і падае да Вашага ведама, што калі ў бліжэйшым часе Кукабака ня будзе звольнены, дык Камісія будзе вымушаная зьвярнуцца ў спэцыяльны Камітэт пры Міжнароднай Асацыяцыі Псыхіятараў, створаны нядаўна на VI зьезьдзе Міжнароднае Асацыяцыі ў Ганалюлю».

20 кастрычніка 1976 году Някіпелаў і Падрабінак выступілі супольна зь лістом «У вабарону Міхала Кукабакі», у якім пісалі:

*«...Кукабака быў небясьпечны для ўладаў сваім уплывам на іншых рабочых, якім ён даваў навочны прыклад, як трэба змагацца за свае правы. Жывучы ў інтэрнаце, абарачаючыся ў заводзкім калектыве, Кукабака быў непажаданым брадзільным пачаткам, сваясаблівым цэнтрам крышталізацыі незалежнае грамадзкае думкі. Гэтага рэжым ня мог ні зразумець, ні даравашь. [...]*

*Стан ускладніўся тым, што Кукабака — адзін, у яго няма родных, а калі гэтак — паводля савецкіх законаў няма каму нат бараніць ягоныя правы. [...]*

*Мы зварачаемся да замежнае грамадзкае думкі, да асацыяцыі замежных псыхіятараў, да ўдзельнікаў нядаўняга зьезду на гавайскіх абтоках з заклікам заступіцца.*

*Свабоду Міхалу Кукабаку!»*

5 лістапада Аляксандар Падрабінак зьвярнуўся ў Камітэт да разгляду жальбы на ўжываньне псыхіятрыі ў палітычных мэтах з просьбай разгледзець справу аб прымусовай псыхіятрычнай шпіталізацыі Кукабакі.

25 лістапада 1976 году М. Кукабаку выпусьцілі з бальніцы.

У красавіку 1977 году М. Кукабака падаў у Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР заяву з просьбай, каб ад яго забралі савецкае грамадзянства ды дазволілі выэміграваць.

Міхась Кукабака — аўтар пашыраных самвыдавецтвам адкрытага ліста да ангельскага пісьменьніка Айвара Мантагю[55], нататак пра злаўжываньні ў Сычаўскай спэцпсыхбальніцы, адкрытага ліста да міністра аховы здароўя СССР Пятроўскага[56], артыкулу «Абарона правоў чалавека і адпружаньне — непадзельныя» ды зьмешчанага ў гэтым нумары нашае газэты аўтабіяграфічнага нарысу «Ўкрадзеная Радзіма»[57].

---

[55] Айвар Мантэгю (анг. The Honorable Ivor Goldsmid Samuel Montagu, 1904–1984), англійскі рэжысёр, сцэнарыст, кінакрытык, пісьменнік, актывіст камуністычнага руху 1930-х гг. У 1959 г. атрымаў Ленінскую прэмію міру.

[56] Барыс Пятроўскі (рус. Борис Петровский, 1908–2004), савецкі і расійскі хірург, грамадскі дзеяч, доктар медыцынскіх навук, прафесар. У 1965–1980 гг. быў міністрам аховы здароўя СССР.

[57] Тэкст публікуецца ў іншым раздзеле гэтае кнігі.

***

## Остановить готовящуюся расправу!
### *(к аресту Михаила КУКОБАКИ)*[58]

В конце октября 1978[59] года в г. Бобруйске, в обстановке полной секретности, арестован Михаил КУКОБАКА, рабочий-грузчик Бобруйского завода «Вторсырье», диссидент и бывший политзаключенный, автор разоблачительных заметок о Сычевской спецпсихбольнице[60] и многочисленных публицистических статей.

По противоправному обвинению в распространении заведомо ложных измышлений, порочащих советский государственный и общественный строй, М. КУКОБАКА, будучи здоровым человеком, был подвергнут психиатрической репрессии и уже провел свыше 6 лет (1970–1976 гг.) за решетками Владимирской тюрьмы, Сычевской спецпсихбольницы и Владимирской психбольницы.

Вскоре после освобождения[61] (ноябрь 1976 г.) он был подвергнут насильственной госпитализации в Могилевскую психбольницу[62]. Поводом для госпитализации стало... распространение Всеобщей декларации прав человека.

Третий арест и насильственное помещение в Могилевскую психбольницу произошли 6 октября 1977 г. Повод — отказ снять со стены над кроватью в общежитии небольшую иконку Божьей Матери, а также портреты А. Сахарова и П. Григоренко.

---

[58] Паводле: Свободное Межпрофессиональное Объединение Трудящихся (СМОТ). Информационный бюллетень. Москва, 1978. № 1, декабрь. С. 9–10. Тое самае: Вольное слово. Самиздат. Избранное. Вып. 34. Посев, 1979. С. 18–21. Копіі захоўваюцца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.

[59] *19.10.78 (см. АС № 3487:11).*

[60] *См. о них АС № 3333:2.*

[61] *10.5.1976 (см. АС № 3333:1).*

[62] *Госпитализирован 1.11.76 (см. АС № 3491), выписан 28.11.76 (см. Хр. 43:58).*

В результате широкой огласки и многочисленных протестов госпитализации 1976 и 1977 гг. были непродолжительными.

Обстоятельства четвертого ареста М. КУКОБАКИ пока неизвестны. Можно предполагать, что поводом к нему были: его заявление о желании выступить на процессе А. ПОДРАБИНЕКА в качестве свидетеля защиты[63]; выступление в защиту «Независимого профсоюза в СССР»; опубликование за рубежом очерков «На свидание с детством», «Украденная родина»[64]; выступление в защиту арестованного в мае 1978 г. рабочего Е. БУЗИННИКОВА, знакомого М. КУКОБАКИ. По делу БУЗИННИКОВА на переписку КУКОБАКИ в мае–октябре с. г. был наложен арест, 30–31 августа Бобруйским отд. КГБ были произведены обыски у знакомых КУКОБАКИ, после чего за ним была установлена тотальная слежка.

Открытое письмо на имя председателя КГБ Ю. Андропова (посланное в «Правду»)[65] по поводу незаконных, не оформленных процессуально обысков, видимо, стало последним толчком к его аресту.

Выльется ли настоящий арест в новую психиатрическую госпитализацию, или М. КУКОБАКА может быть подвергнут следствию и суду? Есть опасение, что М. КУКОБАКА может быть подвергнут самой страшной репрессии — помещению в психиатрическую больницу тюремного типа.

В любом случае арест М. КУКОБАКИ есть действие, противоречащее духу и букве Всеобщей декларации прав человека. Все заявления, вся правозащитная деятельность М. КУКОБАКИ были открытыми, гласными, а следовательно, не противоправными. Ни одна из его статей не содержала клеветы, заведомо ложных измышлений, а выражала его мнения, точку зрения и оценки. Михаил КУКОБАКА никогда не страдал психическими заболеваниями, о чем свидетельствует акт психиатрической экс-

---

[63] *Более подробно об этом заявлении см. АС № 3333.*

[64] *АС № 3594 и 3278 соотв.*

[65] *АС № 3491.*

пертизы, проведенной психиатром Рабочей комиссии по расследованию использования психиатрии в политических целях. Арест М. КУКОБАКИ — нарушение права человека на свободу высказывания своих взглядов.

Мы обращаемся к общественному мнению в СССР, за рубежом, к рабочим и их профсоюзам, и в первую очередь к профсоюзам рабочих-грузчиков, с призывом выступить вместе с нами в защиту Михаила КУКОБАКИ, чтобы остановить готовящуюся расправу[66].

В. НЕКИПЕЛОВ
Э. КУЛЕШОВ
Ю. ГРИММ
Ю. БЕЛОВ
Н. КОМАРОВ
М. ЗОТОВ
Ф. СЕРЕБРОВ
В. ГЕРШУНИ[67]
О. СОЛОВЬЕВ

Присоединяемся из СП СМОТ:
Л. АГАПОВА
В. БАРАНОВ
В. БОРИСОВ
Л. ВОЛОХОНСКИЙ
А. ИВАНЧЕНКО
Е. НИКОЛАЕВ
Н. НИКИТИН
Н. РОЗАНОВ
В. САМОЙЛОВ
В. СКВИРСКИЙ (арестован)
В. НОВОДВОРСКАЯ (арестована)
Ю. НАУМОВ
В. ФАЙНБЕРГ
А. ЯКОРЕВА

---

[66] *21.6.79 М. Кукобака осужден на 3 г. лишения свободы (АФП, 21.6.79).*

[67] *Виктор, Эдуард, Юрий (Гримм арестован 11.8.79, см. АФН, 12.8.79), Юрий, Николай, Михаил, Феликс, Владимир соотв.*

***

## Дело Михаила Кукобаки[68]

Как уже сообщалось в Информационном бюллетене № 13, вновь арестован Михаил Игнатьевич КУКОБАКА, проведший ранее более шести лет в тюрьме и в специальной психиатрической больнице (см. ИБ. № 3, 4, 5, 7).

Михаил КУКОБАКА последнее время работал грузчиком Бобруйского комбината «Вторсырье» и проживал в общежитии (адрес: 213802, Бобруйск, ул. Крылова, 11, комн. 100). В сентябре 1978 г. он направил в газету «Правда» Открытое письмо председателю КГБ Ю. Андропову[69]. В письме КУКОБАКА описывает обстановку, в которой ему приходилось жить в течение последних двух лет.

За два года жизни в Бобруйске у Михаила КУКОБАКИ было проведено несколько обысков сотрудниками местного КГБ, исчезала или грубо контролировалась направленная ему корреспонденция, вещи в общежитии негласно просматривались, а протесты оставались без ответа. *«Неудивительно,* — пишет КУКОБАКА, — *что я был вынужден пытаться вести переписку через адреса своих знакомых. Некоторые вещи тоже приходилось держать по чужим квартирам. Однако и это не всегда спасает от назойливого любопытства высокооплачиваемых сотрудников в штатском... В конце августа сего года грузчик БОРИСОВ Олег имел неосторожность сообщить в раздевалке при всех, что, мол, у меня есть бандероль из Минска. По дороге с*

---

[68] Материалы Самиздата. Вып. № 7/79. 26 февраля 1979 г. С. 10–12. Копія захоўваецца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.

[69] Юры Андропаў (рус. Юрий Андропов, 1914–1984), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1967–1982 гг. быў старшынёй Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР, у 1982–1984 гг. — Генеральны сакратар ЦК КПСС.

*работы его встретили двое в штатском и один в форме милиционера и потребовали отдать им бандероль (с книгой). На всякий случай припугнули, что за излишнее употребление вина он может быть отправлен на два года в лечебно-трудовой профилакторий. Забрав бандероль, даже не вскрывая ее, они посадили БОРИСОВА в поджидавшую их машину… В местном отделе КГБ его тщательно допросили о моих взаимоотношениях с другими рабочими. Во время “беседы” один из сотрудников сказал: “Вы должны знать, что КУКОБАКА — сумасшедший, и поэтому следует избегать всяких контактов с ним”. Через день, 31 августа, в доме молодого рабочего НОВИКОВА Сергея был проведен подобный же “обыск”. В конце дня, предварительно убедившись, что меня нет в доме, к нему зашли трое в штатском. Один из них показал удостоверение сотрудника КГБ и заявил, что в доме хранится незаконная литература, принадлежащая КУКОБАКЕ, и ее необходимо изъять. При этом сотрудник как бы вскользь заметил, мол, у них есть сведения, что при ремонте дома НОВИКОВ доставал некоторые материалы “в обход закона”.*

*У НОВИКОВА были изъяты, в частности, тексты Всеобщей декларации прав человека, “Ведомости Верховного Совета СССР” за август 1975 г. (с текстом Заключительного Акта совещания в Хельсинки), “Журнал Московской Патриархии”, фотографии друзей КУКОБАКИ. “Всего не перечислишь, — пишет КУКОБАКА в письме. — Даже 4 неподписанные новогодние открытки с изображением Снегурочки изъяли. Да нет, ради Бога! Открытки не заграничные, а отпечатанные в Ленинграде в издательстве “Аврора” в 1977 г. Заграничные, само собой, изъяли».*

19 октября 1978 г. Михаил КУКОБАКА был арестован. На работе составили акт о том, что он занимается агитацией. По-видимому, КУКОБАКУ обвиняют в распространении *«заведомо ложных измышлений, порочащих советский государственный и общественный*

*строй»* (ст. 186-1 УК БССР). Следствие ведет следователь Могилевской областной прокуратуры ПИЧУГОВ. В разговоре со знакомой Михаила он заявил, что не сомневается в психической неполноценности КУКОБАКИ. В настоящее время КУКОБАКА направлен на судебно-психиатрическую экспертизу, которая, видимо, будет проводиться в Институте им. Сербского.

В связи с арестом Михаила КУКОБАКИ Рабочая комиссия и Московская группа «Хельсинки» выступили с заявлением, в котором выразили свои опасения за его судьбу (см. приложение 3).

Приложение 3

## ЗАЯВЛЕНИЕ ДЛЯ ПРЕССЫ

Михаил КУКОБАКА, отбывший более шести лет (1970–1976 гг.) заключения во Владимирской тюрьме и Сычевской спецпсихбольнице по обвинению в антисоветской деятельности, вновь арестован.

19 октября 1978 г. КУКОБАКА был увезен сотрудниками Бобруйского КГБ прямо с работы.

Михаил КУКОБАКА, дипломированный бульдозерист-скрепист, в связи с клеймом душевнобольного, наложенным на него репрессивной психиатрией, был лишен возможности трудиться по специальности и работал грузчиком на заводе «Вторсырье».

КУКОБАКА является автором очерка об ужасах Сычевской СПБ и рассказов, опубликованных на Западе.

Михаил КУКОБАКА неоднократно обращался с открытыми письмами о правонарушениях в советские высшие инстанции. В Президиум Верховного Совета СССР им было отправлено мотивированное заявление с требованием разрешить ему выезд из СССР.

Правозащитная деятельность КУКОБАКИ, выражавшаяся, в частности, в распространении Декларации прав человека, неизменно вызывала сочувствие и понимание в среде рабочих, а у властей — недовольство.

В период с конца 1976 г. по октябрь 1978 г. КУКОБАКА дважды подвергался насильственной госпитализации в Могилевскую психбольницу. По заключению врача-психиатра консультанта Рабочей комиссии он является психически нормальным.

Рабочая комиссия выражает свои опасения за судьбу Михаила КУКОБАКИ и протестует против новых попыток подвергнуть его насильственному лечению в условиях спецпсихбольницы.

Члены Рабочей комиссии:

В. БАХМИН

Ф. СЕРЕБРОВ

Л. ТЕРНОВСКИЙ

Члены Московской группы «Хельсинки»

Е. БОННЭР

С. КАЛЛИСТРАТОВА[70]

М. ЛАНДА

Н. МЕЙМАН

Т. ОСИПОВА

***

*Нью-Ёрк, 22.I.1979 г.*[71]

В. пав. Пётр Грыгоравіч

Копію ліста Някіпелава да Хаменкі (правільна: Ханенка[72], і не Алесь, а Янка — але гэта малаважная дэталь) я дастаў на мінулым тыдні. Ліст не патрабуе выясьненьня, ён самазразумелы.

---

[70] В получ. копии «Калистратова».

[71] Ліст і дакумент у дадатку захоўваюцца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.

[72] Янка Ханенка (нар. 1951), грамадскі дзеяч. У 1974 г. уцёк з савецкага карабля-сухагруза «Шура Кобер» у г. Іры. Атрымаў прытулак у ЗША, пасяліўся ў Кліўлендзе. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, у 1988–2000 гг. кіраваў Кліўлендскім аддзелам арганізацыі. Быў старшынёй Камітэта абароны вязняў сумлення.

У Нью-Ёрку будзе створаны Камітэт абароны М. Кукабакі. Беларуская грамада тут зробіць усё, што можна, каб яму дапамагчы.

Калі-б у Вас былі магчымасьці із свайго боку памагчы Кукабаку, мы будзем Вам за гэта вельмі ўдзячныя. Калі ласка, у сваіх выступленьнях-прамовах згадвайце й ягонае ймя. Гэта таксама будзе дапамогаю ў абароне яго.

Калі-б Вы мелі да мяне якія-небудзь запытаньні ці парады, мой нумар тэлефону на працы ў Радыё «Свабода»: 867-5200, апарат 250.

З падзякаю за Вашу прыхільнасьць да Беларусаў і глыбокай пашанай

*Янка Запруднік*

***

### Адкрыты ліст В. Някіпелава да Я. Ханенкі[73]

*Ад Рэдакцыі: У газэце «Беларус» за верасень 1978 г. (№ 257) быў зьмешчаны адкрыты ліст Янкі Ханенкі, які жыве ў Амэрыцы, да Міхася Кукабакі, беларускага іншадумца ў Бабруйску. Нядаўна мы дасталі тэкст адкрытага ліста Віктара Някіпелава з Савецкага Саюзу да Янкі Ханенкі ў вадказ на ягоны ліст да Кукабакі, якога ў міжчасе савецкая ўлада арыштавала паўторна. Падаём ніжэй у перакладзе з расейскай мове поўны тэкст гэтага ліста. Віктар Някіпелаў памылкова называе Янку Алесем — магчыма ў выніку таго, што недачуў ягонага імя ў беларускіх праграмах радыя «Свабода», у якіх Ханенкаў ліст да Кукабакі быў перададзены 25 верасьня 1978 г. Памылкова таксама прозьвішча Ханенкі напісанае "Хаменка". Тэкст лісту В. Някіпелава мы падаём з выпраўленьнем памылак.*

[73] Беларус. 1979. Люты (№ 262). С. 3.

## Адкрыты ліст Янку Ханенку ў сувязі з арыштам у СССР ягонага суродзіча рабочага М. Кукабакі

Дарагі Алесь (Янка. — ***Рэд. «Б.»***)!

Праз эфірны гул і злавесную какафонію савецкіх глушыльнікаў мне давялося пачуць аднойчы перададаваны беларускай студыяй радыя «Свабода» Ваш зварот да суродзіча бабруйскага рабочага Міхала Кукабакі з нагоды ягонага нарысу «Украдзеная Радзіма», апублікаванага ў газэце «Беларусь» («Беларус». — ***Рэд.***).

Міхал Кукабака — і мой блізкі сябра, аднадумец і сувязень. Калі ён даведаўся пра Ваш зварот, ён быў вельмі ўсьцешаны, распытваўся пра падрабязнасьці, зьбіраўся Вам напісаць.

На жаль, ён не пасьпеў гэтага зрабіць...

Я ня ведаю, дарагі Алесь (Янка), ці ведама Вам, што 19 кастрычніка 1978 г. Міхал Кукабака, наш Міхась, як звалі Вы яго ў сваім лісьце, быў арыштаваны.

Цяпер яго трымаюць у сьледчай турме таго-ж гораду, які ён гэтак прачула апісаў у нарысе «Украдзеная Радзіма», у горадзе свайго маленства й сваіх беларускіх продкаў — Бабруйску[74].

Запраўды гэтая зямля сталася яму мачыхай, і радзіма была ўкрадзеная ў яго...

Я ня ведаю, якія канкрэтна абвінавачаньні выстаўленыя Міхалу Кукабаку. Ужо блізу месяц намагаюся высьсніць гэта ў бабруйскага й магілёўскага пракурораў, але яны маўчаць. Маўчаць, не зважаючы на тое, што ў Міхала няма сваякоў, і я — той чалавек, якому ён даверыў афіцыйна, праз натарыуса, абарону ягоных юрыдычных інтарэсаў. Я думаю, што будуць маўчаць і надалей або адпішуцца крывадушным радком, які нічо-

[74] Адрыс сьледчае турмы: 212827, г. Бобруйск, учреждение УЖ/15 – ИЗ-5.

га ня выясьняе. І гэтае маўчаньне — толькі пацьверджаньне таго, што ў Міхала Кукабакі няма ніякае віны перад людзьмі.

Арышт Міхала Кукабакі — выразная палітычная рэпрэсія, дзяржаўная помста за спробу рэалізаваць прыроднае права думаць, гаварыць і выкладаць свае думкі на паперы.

М. Кукабака ўжо адбыў за сваё «іншадумства» 6 даўгіх гадоў (12.IV.1970–10.V.1976) у самых страшных савецкіх турмах — псыхіятрычных. Уся ягоная «правіна» была ў тым, што ён выйшаў з прафсаюзу, які не бараніў рабочых, адмовіўся браць удзел у выбарах, камуністычных сыботніках ды іншых прапагандысцкіх дэкорумах.

Пасьля вызваленьня ўжо, жывучы ў Бабруйску, ён двойчы прымусова зьмяшчаўся ў псыхіятрычныя больніцы. Першы раз (лістапад 19-76) — за тое, што даваў чытаць сябром на працы... Усеагульную дэклярацыю правоў чалавека, другі (кастрычнік 1977) — за вывешаныя над ложкам у заводзкім інтэрнаце невялікую ікону й партрэты А. Д. Сахарава й П. Г. Грыгарэнкі.

Акалічнасьці цяперашняга, чацьвертага, арышту М. Кукабакі тымчасам няведамыя. Відаць, яму ставяць у віну напісаньне выкрывальніцкіх нататак пра Сычаўскую спэцпсыхбольніцу, артыкулы «Абарона правоў чалавека і распружаньне — непадзельныя», адкрытых лістоў міністру аховы здароўя СССР Пятроўскаму (1977), старшыні КДБ Андропаву (верасень 1978) ды іншым, публіцыстычную й праваабарончую дзейнасьць.

Калі ўлады інкрымінуюць Кукабаку ягоныя аўтабіяграфічныя нарысы «На спатканьне з маленствам» і «Украдзеная радзіма», яны, паводле шаблёну свайго мысьленьня, напэўна, абвінавацяць яго ў «паклёпах на беларускі народ». Як ужо зрабілі нядаўна зь іншым беларускім рабочым з гор. Сьветлагорску Гомельскай

вобласьці Аўгенам Бузіньнікавым[75], дарэчы, таксама знаёмым М. Кукабакі...

Я, як чалавек, што блізка знаў Міхала Кукабаку, сьцьвярджаю: у ніводным артыкуле, у тым ліку ў цудоўных беларускіх нарысах, няма паклёпу ні на беларускі, ні на расейскі народы. Як і ніякага іншага паклёпу. Хіба што боль за сваю паруганую, патаптаную ідэалягічнымі панявольнікамі Радзіму можна назваць «паклёпам».

Арышт М. Кукабакі — грубае парушэньне правоў і свабодаў, дэкляраваных міжнароднымі пактамі. Гэта сьляпая помста таталітарнага рэжыму за выказаную яму ў вочы праўду, на спробу маральнага супраціву гвалту таталітарнае ідэялёгіі. Я баюся, што гэтая помста можа быць суровай, абярнуўшыся гэтым разам новым зьняволеньнем Міхала Кукабакі ў турэмнай спэцпсыхбольніцы.

Я зварачаюся да вас, дарагі Алесь (Янка), з заклікам аб'яднаць нашыя намаганьні. Я буду імкнуцца памагчы Міхалу тут, у СССР, Вы — у сябе, за мяжой. Я думаю, дзейснай дапамогай з Вашага боку можа стацца зварот да грамадзтва, у тым ліку да беларускага замежжа і субратоў Міхала ў працы — да нацыянальных, а калі ёсьць гэткі, да міжнароднага саюзу рабочых-грузчыкаў. Магчыма, Вам удасца стварыць грамадзкі камітэт у ягоную абарону, арганізаваць пратэсты, запрасіць замежнага адваката... Дапамогаю будзе публікацыя ўсіх твораў М. Кукабакі, а таксама лісты да яго ў зьняволеньне.

---

[75] Аўген Бузіннікаў (1938–2010), жыхар Светлагорска, які быў у 1978 г. арыштаваны за антысавецкую дзейнасць, якая выяўлялася ў кантактах з іншадумцамі, слуханні замежных радыёстанцый, распаўсюджанні звестак, што хлусліва праказваюць савецкі лад. Дагэтуль ён быў двойчы асуджаны, меў кантакты з Андрэем Сахаравым, Аляксандрам Гінзбургам, Віктарам Некіпелавым.

З пашанаю. Загадзя дзякую Вам за ўсе захады ў вабарону Міхала Кукабакі.

Віктар Някіпелаў

*Г. Камешково, Владимирской области. Ул. Советская, д. 2-г, кв. 14.*

3 сьнежня 1978 г. Сяньня Міхалу Кукабаку споўнілася 42 гады. Сёмы раз ён сустракае дзень свайго нараджэньня ў турме.

***

**«Бяз права ліставаньня...»**
**(Зварот у вабарону Міхала Кукабакі)**[76]

У Наваполацкі крымінальны лягер (211440, Віцебская вобласьць, г. Наваполацк-35, установа УЖ 15/10 «Д») 13 жніўня 1979 году прыбыў дзеля адбываньня тэрміну зьняволеньня засуджаны 21.VI.79 г. на тры гады лягераў агульнага рэжыму Міхал Кукабака. Ад першых дзён перабываньня ў лягеры ён паддадзены асабліваму нагляду й ізаляцыі. Ведама, што ў турэмную «асабовую справу» Кукабакі, яшчэ ў часе сьледзтва, органамі КДБ была ўкладзеная, з выразнай мэтай — усуровіць рэжым зьняволеньня, дыскрымінацыйная, неадпаведная запраўднасьці характарыстыка: *«Мае нахіл да ўцёкаў і самагубства»*.

Міхал Кукабака выбраў натуральную для вязьня сумленьня лінію трыманьня ў лягеры: не хаваць перакананьняў, не паддаваць свае лісты «самацэнзуры», весьці далей абарону правоў чалавека — правоў зьняволеных унутры лягеру. Ён адкрыта заявіў, што ня будзе браць удзелу ў г. зв. «грамадзкім жыцьці» калёніі (г. зн. у «ўзгадавальных мерапрыемствах») і наведваць палітзаняткі. Усё гэта паставіла Міхала Кукабаку перад абліччам рэпрэсіяў, якія ў умовах правінцыйнага крымінальнага лягеру, дзе апрача таго няма ды напэўна й

[76] Беларус. 1980. Сакавік (№ 275). С. 1.

ня было інакшых палітвязьняў, могуць выявіцца асабліва цяжкімі.

Выклікае трывогу дэманстрацыйнае парушэньне адміністрацыяй права М. Кукабакі на ліставаньне. Не зважаючы на тое, што зьняволеным лягеру агульнага (рэжыму — у машынапіснай копіі слова прапушчана. — ***Я. З.***) законам дазволенае ліставаньне без абмежаваньня ліку лістоў, Кукабака пастаўлены ў гэткія ўмовы, што фактычна пазбаўлены гэтага права. Начальнік апэрчасткі лягеру маёр Ганчароў забараняе Кукабаку пісаць аб чым бы там ні было, апрача надвор'я. Ён забараняе выказваць у лістох собскую думку ў якім-хаця пытаньні, а ўжываныя скароты, прыкладам ініцыялы заміж імя-войчаства, уважае за... шыфр. Шмат якія лісты Кукабакі да сяброў канфіскаваныя: відаць, яму не перадаюцца лісты з волі. За парушэньне сваіх забаронаў Ганчароў ужо пагражаў Кукабаку карцарам і ПКТ (лягерная турма, куды садзяць зьняволеных на даўжэйшы тэрмін).

Груба парушаюцца і арт. 36 папраўна-працоўнага кодэксу — аб правох зьняволеных на зварот да пракурора. Кукабаку не дазволена пасылаць заявы пракурору ў запячатваным канвэрце; начальнік атраду адпячатвае ды цэнзуруе іх на вачох у Кукабакі; пры гэтым жальбы, у якіх ёсьць «крытычныя выказваньні» на адрыс адміністрацыі — не адсылаюцца.

Мы абаўляемся, што ў выніку самавольства адміністрацыі лягеру УЖ 15/10, відаць, патуранага КДБ, Міхал Кукабака ня толькі будзе паддадзены цяжкім нутралягерным рэпрэсіям, але й будзе пазбаўлены элементарнага — магчымасьці мець спатканьні й весьці ліставаньне.

Адмысловыя сталінскія лягеры «бяз права ліставаньня» былі фармальна асуджаныя гадамі XX зьезду. Мяркуючы з усяго, яны вярнуліся цяпер назад для Міхала Кукабакі.

*Лістапад 1979 г.*

Падпісалі: Віктар Някіпелаў, Ніна Камарова, Марыя Пятрэнка-Пад'япольская, Софія Калістратава, Фэлікс Скраброў, Ася Ланская, Юры Кісялёў, Арбаташ, Уладзімер Гершуні, Юры Рассамахін, Аляксандар Шустэр, Леанард Тарноўскі, Вячаслаў Бахмін, В. Каралёў, Міхал Берднікаў, Валянцін Буйдан, В. Цьвяткоў, Л. Батаева, Аўгуста Раманава, Юры Ярыш-Агаеў, Алена Бонэр, Іван Каралёў, Тацьцяна Осіпава.

***

Г-ну Бобу Доллу[77]
сенатору США

Редакция газеты «Беларус»
г. Нью-Ёрк

Американскому отделению
Эмнисти Интернейшэнл[78]

**Когда репрессия бессмысленна…[79]**
Открытое письмо в защиту Михаила Кукобаки

Мне стало известно, господин сенатор, что Вы решили принять личное участие в судьбе советского узника совести, рабочего Михаила Кукобаки.

Я знаю также о том, что судьба этого мужественного человека небезразлична многим из его собратьев по нации — белорусов, живущих за рубежом.

---

[77] Боб Доўл (анг. Robert Joseph "Bob" Dole, нар. 1923), амерыканскі палітык-рэспубліканец, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША ў 1961–1969 гг., сенатар ад штата Канзас у 1969–1996 гг.

[78] «Міжнародная амністыя» (анг. Amnesty International) — міжнародная арганізацыя, створаная ў 1961 г. у мэтах барацьбы за абарону правоў чалавека ў свеце. Сёньня арганізацыя мае больш за 2,2 мільёна сябраў у 150 краінах свету.

[79] Машынапіс захоўваецца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.

Я хотел бы рассказать здесь о суде над М. Кукобакой и его нынешнем положении, которое вызывает у меня серьезную тревогу.

Суд состоялся 20—21 июня 1979 г. в г. Бобруйске, и мне посчастливилось, что редко случается на советских политических процессах, быть на этом суде. Этот суд был жалок и бессмысленнен. Я подчеркиваю это слово — бессмысленнен, ибо на нем некого было судить, кроме самой системы, организующей такие суды.

Всё преступление Михаила Кукобаки — написание статьи «Международная разрядка и права человека — неделимы» (разрядка! Призыв к разрядке и соблюдению прав человека, вдумайтесь в само название работы!) и очерка «Украденная родина», переданных им за рубеж, а также ознакомление одного из сослуживцев с открытым (!) письмом министру здравоохранения СССР.

Михаил Кукобака защищал себя сам. Он говорил уверенно и открыто и не скрывал своих взглядов. Он не отводил обвинение, а наоборот, судил его преступную порочность. Он сказал:

«Да, я не считаю себя виновным... Еще в 1970 году я подвергся репрессиям за убеждения и провел в заключении 7 лет... Мои убеждения выстраданны и тверды. И вы сами понимаете, что человек, который всю свою жизнь проводит в тюрьме за убеждения, не может быть преступником...

Мои убеждения абсолютно противоположны коммунистической идеологии. Эти убеждения никакому исправлению трудом не подлежат. Как это можно — исправить трудом убеждения?!»

Известно, что еще в апреле 1977 г. ввиду полного разрыва с государственной идеологией М. Кукобака подал заявление о выезде из СССР. Ответом стал его арест. Теперь, на суде, Кукобака вновь поставил вопрос о высылке его из страны:

*«Я отказался от гражданства, а принудительное навязывание гражданства есть беспримерный садизм... Я не хочу менять свои убеждения, я не могу их менять.*

*Если они не устраивают вас, — отправьте меня из страны»*.

Ответом был приговор: 3 года лагерей.

Мною сделана подробная запись бобруйского процесса, и я просил бы Вас, господин сенатор, а также всех зарубежных друзей М. Кукобаки ознакомиться с этим документом.

В настоящее время Михаил Кукобака прибыл в уголовный лагерь. Его адрес: 211440, Витебская область, г. Новополоцк-31, Учреждение УЖ 15/10-«Д».

Уже из лагеря, в своем заявлении, направленном Пленуму Верховного Суда СССР, М. Кукобака вновь подчеркнул, что расправа над ним — это суд над его убеждениями. Он просил вместо этой бессмысленной репрессии выслать его из СССР в любую из стран свободного мира (на советском официальном языке это называется «в любую капиталистическую страну»). В случае же отказа он настаивает на переводе его на строгий режим — в политический лагерь, даже в тюрьму, поскольку он как политический заключенный отказывается от принудительного труда в условиях уголовного лагеря.

Я предвижу, что такая бескомпромиссная позиция, занятая М. Кукобакой, поставит его под угрозу постоянных внутрилагерных репрессий, а значит, обречет на пытку голодом, ледяными карцерами.

Всё это побуждает к серьезной тревоге о здоровье 43-летнего узника, страдающего болезнями сердца, печени, хроническим гайморитом и воспалением среднего уха.

В довершение ко всему Михаил Кукобака — полный сирота, у него нет ни близких, ни дальних родственников, нет семьи, а следовательно, на весь срок заключения он обречен и на пытку одиночеством. Я являюсь его доверенным лицом, но даже несмотря на это, мне было отказано в свидании с М. Кукобакой после суда и, боюсь, будет отказываться дальше.

Михаил Кукобака осужден за убеждения и идеологический нон-конформизм.

КПД (коэффициент полезного действия) этой репрессии равен нулю. Любое наказание всегда имеет целью исправление наказываемого, изменение его наклонностей, привычек, формы поведения. Наказание человека, утверждающего «на том стою», то есть лишение свободы за убеждения, — есть абсурд, сознательное мучительство и медленное убивство.

Я прошу Вас выступить в защиту белорусского узника, добиваясь от советских властей даже не акта гуманности — акта элементарной разумности — освобождения Михаила Кукобаки и высылки его из СССР. Пусть даже в наручниках, как это уже бывало несколько раз.

Я прошу также поддержать Михаила Кукобаку своим вниманием, письмами к нему из-за рубежа.

Да поможет Вам Бог в Вашей деятельности!

С признательностью и надеждой

*Виктор Некипелов*

*14 сентября 1979 года*

*601330, Владимирская область, г. Камешково, ул. Советская, д. 2, кв. 14.*

***

## Сэнатар Б. Доўл у вабарону М. Кукабакі[80]

Выступіўшы ў Сэнаце ЗША 27 сакавіка 1979 г. з нагоды 61-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, сэнатар Боб Доўл (сябра амэрыканскае дэлегацыі на Мадрыдзкую канфэрэнцыю 1980 году[81], на якой будзе разглядацца пытаньне ўжыцьцяўленьня Гэльсынкаўс-

[80] Беларус. 1979. Красавік (№ 264). С. 2; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 50.

[81] Маецца на ўвазе Мадрыдская канферэнцыя Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ), што праходзіла ў 1980–1983 гг.

кага пагадненьня[82]) падаў пра свае захады ў вабароне беларускага іншадумца Міхала Кукабакі. «*Я, — сказаў сп. Доўл, — напісаў савецкаму паслу Дабрыніну[83] ды начальніку турмы, дзе Кукабаку трымаюць цяпер (г. зн. у Бабруйску. —* ***Рэд. «Б».****), настойліва просячы іх выпусьціць Кукабаку безадкладна на волю*» («Конгрэшэнал Рэкорд»[84], 27.III.79, б. С 3542).

Сэнатар Доўл дадаў:

*«З мужнымі змагарамі, гэткімі, як М. Кукабака і А. Бузіньнікаў, ідэя свабоды — як мітычны кліч сырэны, супраць якога не ўстаяць. Цяга да свабоды можа быць прыпыненая, але яе нельга задушыць»*.

***

## Новыя матарыялы да справы М. Кукабакі[85]

У выдаваных радыям «Свабода» «Материалах самиздата» ў выпуску № 8/79 за 9 сакавіка сёлета зьмешчаныя пяць матарыялаў да справы арыштаванага беларускага іншадумца Міхала Кукабакі. Гэта: Кукабакава «Скарга» старшыні КДБ Ю. Андропаву з дамаганьнем змусіць бабруйскіх працаўнікоў КДБ «трымаць сябе ў рамках прыстойнасьці» й вярнуць забраную маёмасьць

---

[82] Хельсінкскае пагадненне — Заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, падпісаны прадстаўнікамі 35 дзяржаў (у тым ліку і СССР ды ЗША) у Хельсінкі (Фінляндыя) 30 ліпеня — 1 жніўня 1975 г. Дакумент прадугледжваў сярод іншага ўзгадненне абавязацельстваў па пытаннях правоў чалавека і асноўных свабод.

[83] Анатоль Дабрынін (рус. Анатолий Добрынин, 1919–2010), савецкі дыпламат, пасол у ЗША ў 1962–1986 гг.

[84] «Congressional Record» («Кангрэсавыя запісы») — афіцыйнае выданне абмеркаванняў і дэбатаў, што адбываюцца на сесіях у Кангрэсе ЗША.

[85] Беларус. 1979. Красавік (№ 264). С. 2; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 50–51.

(напісаная ў Бабруйску 2.XII.76); «Заява» М. Кукабакі Старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР М. Падгорнаму[86] з просьбай вызваліць яго ад савецкага падданства й дазволіць выехаць з СССР (напісаная ў Бабруйску 16.IV.77); «Заява» Кукабакі пракурору Магілёўскае вобласьці аб працягваньні псыхіятрычных перасьледаў яго (напісана ў Бабруйску 21.VI.77); «Адкрыты ліст Міністру аховы здароўя СССР» Б. Пятроўскаму аб практыцы псыхіятрычных перасьледаў (напісаны ў Бабруйску 27.VI.77) ды артыкул «На сустрэчу з маленствам», улучна з ананімнай даведкай пра аўтара (бязь месца напісаньня, 1977).

У Архіве Самвыдавецтва радыя «Свабода» дакумэнты гэтыя знаходзяцца пад нумарамі: 3491–3495.

У Камітэце Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі, створаным нядаўна ў Нью Ёрку, робіцца цяпер пераклад гэтых дакумэнтаў у ангельскую мову з мэтай іхнага пашырэньня на Захадзе, каб змабілізаваць грамадзкую думку ў вабарону Міхала Кукабакі.

***

## Ліст сэнатара Робэрта Доўла ў справе Міхала Кукабакі[87]

19-га чырвеня сёлета сэнатар-рэспубліканец Боб Доўл выслаў ліст генэральнаму пракурору СССР Раману Рудэнку[88] ў справе беларускага іншадумца Міхала Кукабакі.

У лісьце сэн. Доўл зьвярнуў увагу Рудэнкі на тое, што М. Кукабаку даўгі час трымалі ў псыхіятрычных

---

[86] Мікалай Падгорны (рус. Николай Подгорный, 1903–1983), савецкі палітычны дзеяч. У 1965–1977 гг. быў старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

[87] Беларус. 1979. Ліпень (№ 267). С. 1; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 51–52.

[88] Раман Рудэнка (рус. Роман Руденко, 1907–1981), савецкі дзяржаўны дзеяч. У 1953–1981 гг. — Генеральны пракурор СССР.

бальніцах, хоць тыя, хто сустракаў Кукабаку, як і тыя, што чыталі ягоныя артыкулы й нарысы, ведалі яго як чалавека здаровага. За здаровага ён быў нядаўна прызнаны і экспэртамі Інстытуту крымінальнае псыхіятрыі ў Маскве.

Спасылаючыся на гуманітарныя пункты Гэльсынкаўскага пагадненьня, а таксама на дух міжнароднага адпружаньня[89], у выніку чаго сталася магчымым падпісаньне ў Вене ўмовы аб абмежаваньні стратэгічнае зброі[90], сэнатар Доўл зьвярнуўся да генэральнага пракурора Рудэнкі з просьбай звольніць М. Кукабаку ды даць яму магчымасьць выэміграваць.

Таго-ж самага дня сэнатар Доўл выслаў таксама ліст савецкаму паслу ў Вашынгтоне Анатолю Дабрыніну, далучыўшы тэкст свайго ліста да Рудэнкі. Сэн. Доўл папрасіў Дабрыніна дапамагчы абладзіць справу Кукабакі. «Я спадзяюся, — напісаў ён, — што гуманітарныя думкі, выказаныя прэзыдэнтам Брэжневам[91] у часе падпісаньня ў Вене ўмовы аб абмежаваньні стратэгічнае зброі, знойдуць сваё адлюстраваньне пры разглядзе справы Міхала Кукабакі».

У вабодвых лістах сэнатар Боб Доўл выказаў спадзяваньне на пісьмовы адказ на свае лісты. Адказу тымчасам няма.

*Я. З.*

---

[89] Маецца на ўвазе палітыка «разрадкі» (фр. detente), што запанавала ў міжнародных дачыненнях у 1970-х гг. і складалася са спробаў наладжваць супрацоўніцтва паміж краінамі Захаду і СССР.

[90] Маецца на ўвазе падпісанае 18 чэрвеня 1979 г. у Вене пагадненне паміж СССР і ЗША аб абмежаванні стратэгічных узбраенняў (гэтак званае АСВ-II).

[91] Леанід Брэжнеў (рус. Леонид Брежнев, 1906(07)–1982), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1966–1982 гг. займаў пасаду Генеральнага сакратара ЦК КПСС, г. зн. быў фактычным кіраўніком СССР.

***

## Міхал Кукабака засуджаны ўзноў[92]

Як падалі з Масквы 22 чырвеня сёлета заходнія карэспандэнты, беларускі іншадумец Міхаіл Кукабака засуджаны йзноў на тры гады зьняволеньня за «антысавецкія паклёпы». Пра гэта паведаміў заходнім карэспандэнтам савецкі акадэмік-іншадумец Андрэй Сахараў. Ён сказаў, што суд над Кукабакам адбыўся ў Магілёве ды што Кукабаку засудзілі за ягоны нарыс «Жыцьцё ў Бабруйску» (у Бабруйску М. Кукабака жыў да ягонага арышту ў кастрычніку летась).

У нарысе «Жыцьцё ў Бабруйску», паводля словаў Сахарава, аўтар крытычна апісвае жыцьцё работнікаў. Нарыс перадаваўся ў Савецкі Саюз заходня-нямецкай радыястанцыяй «Дойчэ Вэльле»[93].

***

## У вабарону Міхала Кукабакі[94]

Газэта «Беларус», да якое зьвярнуўся ў вадкрытым лісьце Віктар Някіпелаў (гл. «Беларус», № 271–272) з просьбай «падтрымаць Міхала Кукабаку сваёй увагай, лістамі да яго з-за мяжы», выдала паштоўку, прысьвечаную М. Кукабаку. Мэта паштоўкі — спрыяць вызваленьню М. Кукабакі з турмы ды ягонаму выезду з Савецкага Саюзу, дзе яго перасьледуюць за палітычныя й рэлігійныя перакананьні. Дзеля гэтага вельмі важна пашыраць у заходнім грамадзтве ймя М. Кукабакі, інфармаваць пра зьдзек над ім, пра патаптаньне ягоных прыродных людзкіх правоў.

---

[92] Беларус. 1979. Ліпень (№ 267). С. 1; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 52–53.

[93] «Нямецкая хваля» (ням. «Deutsche Welle») — заснаваная ў 1953 г. заходненямецкая радыёстанцыя, пазней таксама і тэлекампанія.

[94] Беларус. 1980. Студзень (№ 273). С. 1; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 53–54.

Паштоўкі гэтыя трэба пасылаць перш-наперш да афіцыйных асобаў кажнага ўраду на сьвеце, улучна з урадамі БССР і СССР, а таксама ў арганізацыі, урадавыя ўстановы (асабліва тыя, што маюць міжнародныя сувязі або сувязі з Савецкім Саюзам), дыпляматычныя місіі й прадстаўніцтвы. Зразумела, можна паштоўкамі карыстацца і ў прыватным ліставаньні — паслаць сваякам, скажам, прывітаньне каму-небудзь (у дарозе паштоўка будзе рабіць таксама інфармацыйную работу).

Пісаць на паштоўцы шмат ня трэба (ды на ёй шмат і не напішаш). Важна ня гэтулькі тое, што Вы напішаце, колькі сам факт пасланьня паштоўкі, факт **Вашага** звароту з просьбай аб дапамозе. Хопіць нат напісаць адзін сказ: “Памажэце М. Кукабаку выехаць з Савецкага Саюзу” (ці нешта ў гэтым духу). Калі хто-небудзь з адрысатаў захоча больш інфармацыі пра М. Кукабаку, ён будзе ведаць, куды зварачацца: на паштоўцы пададзеныя два адрасы — Камітэту Дапамогі Вязьням Сумленьня на Беларусі й газэты «Беларус» (на адвароце паштоўкі).

Цана паштоўкі — 25 цэнтаў. Прыбытак зь ейнага продажу (як і ахвяры, на які Камітэт Дапамогі чакае ад Вас) пойдзе на справу дапамогі вязьням сумленьня на Беларусі.

***

## Ліст сэнатара Доўла да Кукабакі[95]

Сэнатар Боб Доўл напісаў 13 сьнежня 1979 г. ліст да беларускага іншадумца Міхала Кукабакі ў новапалацкую турму (з копіяй савецкаму паслу ў Вашынгтоне А. Дабрыніну). Ліст сэн. Доўл напісаў у вадказ на адкрыты ліст да яго ад Віктара Някіпелава, расейскага паэты і іншадумца, у міжчасе таксама арыштаванага савецкай уладай. Віктар Някіпелаў — блізкі прыяцель

[95] Беларус. 1980. Студзень (№ 273). С. 1; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 54–55.

М. Кукабакі ды мае ад яго афіцыйнае ўпаўнаважаньне выступаць у ягоную абарону.

Ніжэй падаём тэкст сэнатара Доўла да Кукабакі ў перакладзе з ангельскае мовы:

*«Паважаны Містэр Кукабака:*

*Я толькі што дастаў ліста, напісанага ад Вашага ймя Містэрам Віктарам Някіпелавам, які, як я разумею, знаходзіцца цяпер таксама пад арыштам.*

*Суд над Вамі ў чырвені сёлета выклікае вялікае зьдзіваваньне сярод нас, што займаюцца справай змаганьня за правы чалавека па цэлым сьвеце. Адвага, якую Вы выявілі праз гады зьняволеньня, трымаючыся сваіх паглядаў і перакананьняў, выклікала захапленьне сярод нас, што ўважаюць свабоды, у якіх адмоўлена Вам, за натуральныя правы чалавека.*

*Я разумею, што Вы церпіце ад благога здароўя і, перадаючы Вам пра сваю асабістую ўстурбаванасьць гэтым, я хачу выказаць Вам запэўненьні, што пляную вясьці далей мае намаганьні ў кірунку Вашага вызваленьня й свабоды, як гэта робяць і шмат Вашых прыяцеляў на Захадзе.*

*Шчыра Ваш — Боб Доўл, сэнатар Задзіночаных Штатаў».*

***

**Кангрэсмэн Біяджы[96] ў справе Кукабакі[97]**

Дастаўшы ад сп-чны Раісы Станкевіч[98] паштоўку М. Кукабакі з просьбай аб дапамозе яму, кангрэсмэн

---

[96] Марыё Біяджы (анг. Mario Biaggi, 1917–2015), амерыканскі палітык-дэмакрат. Быў дэпутатам ад Нью-Ёрка ў Палаце прадстаўнікоў Кангрэса ЗША ў 1969–1988 гг.

[97] Беларус. 1980. Сакавік (№ 275). С. 1; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 55–56.

[98] Раіса Станкевіч (нар. 1941), грамадская дзяячка, дачка Станіслава і Зінаіды Станкевічаў. Выехала з Беларусі разам з бацькамі ў 1944 г. Жыла ў Мюнхене, дзе вучылася

Марыё Біяджы зь Нью Ёрку напісаў 21 лютага сёлета два лісты — адзін генэральнаму сакратару КПСС Л. Брэжневу, а другі савецкаму паслу ў Вашынгтоне А. Дабрыніну.

У лісьце да Брэжнева кангрэсмэн Біяджы напісаў: *«На маю думку, Міхал Кукабака зьняволены несправядліва, і я прашу Вас, каб яго звольнілі ды дазволілі яму выэміграваць у іншую краіну, калі ён гэтага жадае. Калі-ж звальненьне немагчымае, я прашу Вас, каб зь ім абыходзіліся гуманна, пакуль ён будзе ў турме: каб яго адпаведна харчавалі; каб ягоныя мэдычныя патрэбы былі дагледжаныя, ды каб яму давалася праца, адпаведная да ягоных здольнасьцяў».*

*«Я буду ўдзячны,* — канчае свой ліст кангрэсмэн Біяджы, — *за ўсе Вашыя стараньні на карысьць Кукабакі»*.

Копію свайго ліста сп. Біяджы паслаў у Вашынгтон савецкаму паслу Дабрыніну, папрасіўшы яго таксама дапамагчы Міхалу Кукабаку выйсьці з турмы ды эміграваць за межы, а калі гэта немагчыма, дык каб яму было забясьпечанае гуманнае абыходжаньне.

---

ў нямецкай школе. У 1958 г. пераехала ў ЗША. Была выхавальніцай у беларускім дзіцячым садку. У 1973 г. закончыла Універсітэт св. Яна ў Нью-Ёрку са ступенню магістра біяхіміі. Шмат гадоў працавала ў даследчай лабараторыі Слоўн-Катэрынскага цэнтра вывучэння раку ў Нью-Ёрку. Ад 1970 г. належала да Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба. Была сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, уваходзіла ў Галоўную ўправу ды кіраўніцтва Нью-ёркскага аддзела арганізацыі, у рэдкалегію газеты «Беларус». Была старшынёй Задзіночання беларуска-амерыканскай моладзі, старшынёй рэдкалегіі часопіса «Беларуская моладзь». У 1987 г. закончыла факультэт русістыкі Гантэрскага каледжа Гарадскога ўніверсітэта Нью-Ёрка, абараніўшы магістарскую працу на тэму, прысвечаную гісторыі Беларусі пачатку XX ст. Сябра Адміністрацыйнага камітэта Фундацыі імя І. Любачкі. Жыве ў Нью-Ёрку.

***

**BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.**[99]
**NATIONAL HEADQUARTERS**

166-34 Gothic drive
Jamaica, N.Y. 11432

13 чырвеня 1980 году

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ**[100]

У чацьвер 19 чырвеня 1980 г. а 7-ай гадз. у вечары ў КЎІНСКАЎСКІМ КАЛЕДЖЫ, у Доме Студэнцкага Саюзу, адбудзецца ВЕЧАР, ПРЫСЬВЕЧАНЫ БЕЛАРУСКАМУ ІНШАДУМЦУ М. КУКАБАКУ (з нагоды першых угодкаў ад ягонага засуджэньня) ды пытаньню пра стан людзкіх і нацыянальных правоў на Беларусі.

Па кароткіх рэфэратах праф. Томаса Бэрда[101] й др. Янкі Запрудніка адбудзецца дыскусія.

Вечар закончыцца пачастункам.

УСЕ ВЕТЛІВА ЗАПРОШАНЫЯ.

Даезд да Кўінсаўскага Каледжу (65-30 Кісэна Бульвар) аўтобусам 25/34, які можна ўзяць на Мэйн Стрыт у Фляншынгу або на Парсанс Бульвар і Гілсайд Авэню ў Джамэйцы.

*Управа БАЗА*

---

[99] Беларуска-Амерыканскае задзіночанне (БАЗА) — беларуская грамадская арганізацыя, заснаваная ў 1949 г. у ЗША прадстаўнікамі паваеннай эміграцыі.

[100] Дакумент захоўваецца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.

[101] Томас Бэрд (анг. Thomas Bird, нар. 1935), амерыканскі славіст, беларусіст, сябра БІНіМа.

***

## Чатырнаццатая сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі[102]

Пагвалчаньне людзкіх правоў у Беларусі.

З дакладам на гэтую тэму выступіў д-р Янка Запруднік. Прааналізаваўшы пашырэньне дамаганьняў людзкіх правоў, ён адзначыў, што гэты працэс не абмінуў і Беларусі. Толькі за апошнія гады назіраем там дзейнасьць беларускіх іншадумцаў, як Міхал Кукабака, Бузіньнікаў, Зайцаў[103], арышты вернікаў, арышты тых беларусаў, што дамагаюцца выязных візаў із Савецкага Саюзу. Гэткі працэс назіраецца на Ўсходзе Эўропы ўсюды. Сяньня ў Польшчы справа дамаганьня людзкіх правоў прыняла асабліва войстры паварот. Салідарызуемся з дамаганьнямі польскіх работнікаў і мы, Беларусы. Сярод бастуючых польскіх работнікаў напэўна ёсьць нямала Беларусаў з Беласточчыны.

---

[102] Беларус. 1980. Кастрычнік (№ 282). С. 1; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны… С. 56–57.

[103] Маецца на ўвазе Вячаслаў Зайцаў (1917–1992), літаратуразнаўца, перакладчык, касмолаг. Ад 1964 г. жыў у Мінску, быў супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, вывучаў харвацкую і сербскую літаратуры, беларускую культуру эпохі Адраджэння, даследаваў касмічныя рэмінісцэнцыі ў помніках старажытных літаратур, займаўся тэмай «Космас і Біблія». Быў абвешчаны «саюзнікам заходніх багасловаў». У 1974 г. выйшаў з КПСС, быў звольнены з інстытута, займаўся лектарскай дзейнасцю ў гарадах СССР. У 1978 г. арыштаваны і пасля псіхіятрычнай экспертызы змешчаны на прымусовае лячэнне ў Казанскую спецыяльную псіхіятрычную бальніцу, адкуль быў вызвалены ў 1982 г.

***

## Міхал Кукабака ў шпіталі[104]

Як падаў апошні нумар самвыдавецкага расейскага часапісу «Хроніка бягучых падзеяў» («Хроника текущих событий» № 56 за 30 красавіка 1980 г.), што кагадзе трапіў на Захад, Міхал Кукабака 23 красавіка сёлета быў перавезены ў менскі шпіталь для зьняволеных з ацёкам нагі ды болямі ў гаймаравай паражніне (хвароба вуха).

М. Кукабака быў асуджаны ў чырвені 1979 г. у Бабруйску за свае палітычныя, рэлігійныя й нацыянальныя перакананьні на тры гады турмы і тэрмін зьняволеньня адбываў у новаполацкім канцлягеры.

М. Кукабака даўно ўжо адмовіўся ад савецкага грамадзянства ды дамагаецца права на выезд замежы, у якую хаця дэмакратычную краіну.

Паводля вышэй згаданага нумару «Хронікі», Кукабаку ня пусьцілі на курс токараў, не дазвалялі ўзяць зь лягернае бібліятэкі нямецка-расейскага слоўніка, не давалі магчымасьці купляць у кніжнай краме. Ад яго забралі ўсе адрысы (у тым ліку і адрысы афіцыйных асобаў і пракуратуры), копіі жальбаў, заяваў і лістоў, запісы пра атрыманыя й высланыя лісты, сьпіс асабістых рэчаў, кнігі ў ангельскай мове.

Кукабаку перавялі былі на новую працу — вязаць сеткі. За нявыкананьне нормы яго каралі штрафным ізалятарам.

У лістападзе ці сьнежні 1979 году — падае «Хроніка бягучых падзеяў» — Кукабаку далі 6 месяцаў «памешканьня камэрнага тыпу» за тое, што ў кіно (наведваньне кіно — прымусовае) ён адварочваўся ад экрану й затыкаў вушы ватай.

Кукабака — падае «Хроніка» — дамагаўся пераводу яго ў іншую калёнію.

---

[104] Беларус. 1980. Кастрычнік (№ 282). С. 2; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 57–58.

23 красавіка 1980 г. яго прывезьлі ў Менск у шпіталь, куды прывозяць цяжка хворых зьняволеных з усіх канцоў Беларусі.

***

**АС № 4209[105]. Елена Боннэр. «Информация Московской группы "Хельсинки" о Михаиле Кукобаке (Москва), 23.12.80»[106]**

В советских лагерях на особом положении находятся политзаключенные из рабочих. Режим по отношению к ним, как правило, ужесточен, произвол начальства особенно изощрен. Михаил КУКОБАКА — белорус, рабочий, родился в Бобруйске в 1936 году. Рано вследствие войны потерял родителей. Воспитывался в детском доме. Конфронтация с режимом у него началась с того, что он не только не одобрил, но пережил как личный позор вторжение советских войск в Чехословакию в 1968 году. С этого момента он стал критически относиться к событиям, свидетелем и участником которых он оказывался. В 1970 году был арестован в городе Александрове Владимирской области (где был рабочим радиозавода) за демонстративное неучастие в выборах и коммунистическом субботнике. Обвинен по ст. 190-1. После окончания следжствия ему предложили сотрудничество с КГБ. Он отказался, и был направлен в Институт судебной психиатрии имени Сербского, где его признали невменяемым. Более 6 лет он содержался в психбольницах, в том числе — страшной Сычевской СПБ. Уже будучи на свободе, 16 апреля 1977 года он подал в Президиум Верховного Совета СССР заявление об отказе от советского подданства[107]. Позже подавал заявления с просьбой дать ему возможность

---

[105] *Копія дакумента захоўваецца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.*

[106] *Перепечатка с фотокопии оригинала из АС.*

[107] *АС № 3492.*

уехать из СССР. Ответа ни на одно заявление он не получил. 19 октября 1978 года КУКОБАКА был вторично арестован в городе Бобруйске, где он работал рабочим на фабрике вторсырья. 21 июня 1979 года Могилевский областной суд осудил Михаила КУКОБАКУ «за распространение сведений, порочащих советский строй», а вернее, за попытки осмыслить свою жизнь в ряде автобиографических очерков: «Украденная родина»[108], «Свидание с детством»[109], «Открытое письмо академику ПЕТРОВСКОМУ»[110] и других, в которых содержались размышления по поводу советской действительности. Он был приговорен к 3 годам лагерей общего режима[111]. В учреждение УЖ-15/10 «Е»[112] в городе Новополоцке БССР КУКОБАКА прибыл 13 августа 1979 года. Позже стало известно, что на его деле есть пометка «склонен к побегу»[113], сделанная без всяких на то оснований. Таким образом, ему был назначен не общий, а фактически особый режим. Вот, что пишут о нем в двух письмах, которые не прошли цензуру. Его берут на измор, его заставляют вязать сети, заведомо зная, что по возрасту и состоянию здоровья он никогда не сможет выполнить норму выработки. За невыполнение этой нормы его перевели на пониженное питание, что может продолжаться неограниченное время. Его всячески притесняют в переписке. Так, оперчасть изъяла у него все адреса, копии жалоб, заявлений, собственных писем, опись личных вещей; официальные адреса и фамилии работников прокуратуры, куда он писал разные заявления, были вырваны из записной книжки.

---

[108] *АС № 3278.*

[109] *Точнее, «На свидание с детством» (АС № 3495).*

[110] *АС № 3494.*

[111] *Запись суда см. АС № 3784.*

[112] *Ср. «Д» в АС №№ 3787:2, 3789:1, Хр. 54:70.*

[113] *Подробнее об этом см. письмо В. Некипелова «Склонен к побегу и самоубийству» от 27.9.79 в газете «Дейли телеграф» (АС № 3788).*

Миша добивался перевода в другую колонию. Он писал заявления в Президиум Верховного Совета[114], напоминая об отказе от гражданства, с повторными просьбами о выезде из СССР. В ответ администрация колонии ужесточала его режим. Первый срок внутрилагерной тюрьмы — ПКТ — он получил формально за то, что во время сеанса кино (для заключенных обязательного и потому являвшегося повинностью) отвернулся от экрана и заткнул ватой уши. Тогда он пробыл в ПКТ с 6 ноября 1979 года до 6 июня 1980 года. Он очень болел и часть времени пролежал в больнице. В последнем письме Михаил сообщил, что с 11 ноября 1980 года он снова в ПКТ, сроком на 6 месяцев. Причина: *«во время обыска при мне нашли письмо, адресованное Нине (жене Виктора НЕКИПЕЛОВА). В нем я просил, если возможно, обжаловать действия цензуры (начальник оперчасти капитан БЕЛОУСОВ) или дать им огласку. В качестве образца я прилагал текст письма к СОЛОВЬЕВУ[115], который забракован перед этим цензурой, а также текст заявления местному прокурору. Мне здесь запрещено высказывать свои суждения в переписке почти по любому вопросу (политика, литература, экономика и т. д.). О порядках в колонии и речи быть не может; да и не пишу о них. Что интересно, опер отказывается делать вымарки в моих письмах, а заставляет переписывать до тех пор, пока его не устроит содержание. Сейчас мне придумали новые ограничения: запретили пользоваться своими книгами, купленными в лагерной лавке либо полученными почтой. Даже словари отобрали, хотя выписываю “Москоу Ньюс”, чистые тетради также отобрали. Практически изъяли у меня все: адреса всех моих друзей (уже пятый раз), старые конверты, письма, любые записи и т. д. Написал протест на имя прокурора*

[114] *М. б. след. читать «Пленум Верх. Суда СССР» (см. АС №3787:2, 3789:1, Хр. 51:70).*

[115] *М. б. имеется в виду бывш. п/з Олег Соловьев.*

*БССР (уверен, что бесполезно, как и раньше). Снова требую перевода в другую колонию либо в закрытую тюрьму. Ведь условия здесь нечеловеческие. Камеры сырые, совершенно нет вентиляции (нет даже форточек или щели какой); на прогулку не выводят, но если и водили в том году, то все равно не проветривали камеры. Вот такая жизнь».*

Михаил КУКОБАКА нуждается в помощи. Он — сирота, семью потерял во время второй мировой войны. Он — рабочий человек.

Хочется надеяться, что к его судьбе люди в разных странах мира не останутся равнодушными и постараются помочь ему. Он не преступник и поэтому должен жить на свободе. Он хочет уехать из СССР, и это его право должно быть осуществлено.

*Елена БОННЭР*[116]
*23/XII-80*[117]

***

**КАМІТЭТ АБАРОНЫ ВЯЗЬНЯЎ СУМЛЕНЬНЯ НА БЕЛАРУСІ**[118]
**COMMITTEE FOR DEFENSE OF PRISONERS OF CONSCIENCE IN BYELORUSSIA**
187-06 Hillside Avenue
Jamaica, N.Y. 11432
Нью-Ёрк, 5.VI.1981 г.

---

[116] Алена Бонэр (рус. Елена Боннэр, 1923–2011), савецкая і расійская грамадская дзеячка, праваабаронца, дысідэнтка, жонка Андрэя Сахарава.

[117] Інфармацыя была передрукавана ў перакладзе на беларускую мову пад назвай «Міхал Кукабака: “Тут умовы нялюдзкія”» ў газеце «Беларус» (1981. Травень (№ 289)).

[118] Дакумент захоўваецца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.

Да: ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ
У справе: ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў ВАБАРОНУ МІХАСЯ КУКАБАКІ

У нядзелю 21-га чырвеня 1981 г. (а 2-й гадз. п/п)
Ля будынку Аб'еднаных Нацыяў (Гамаршыльд Пляза[119])

В. Пав. Спадар(ы)!

21-га чырвеня сёлета споўніцца роўна два гады часу, калі ў Бабруйску быў засуджаны на тры гады турмы беларускі іншадумец і патрыёт Міхал Кукабака. Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі ўзяў на сябе заданьне правесьці з нагоды другіх угодкаў ад засуджэньня Кукабакі дэманстрацыю ў ягоную абарону.

На Пляцы імя Гамаршыльда перад будынкам ААН у Нью-Ёрку адбудзецца ў нядзелю 21-га чырвеня (пачатак а 2-й гадз. папаўдні) мітынг, у праграму якога ўвойдуць: выступленьні сп-ні Зінаіды Грыгарэнка, прыяцелькі й апякункі М. Кукабакі з часоў ягонага перабываньня ў псіхіятрычнай турме; юрыста зь Беларусі А. Насовіча пра незаконнасьць суду над Кукабакам; магчыма кангрэсмэна(ў); прачытаньне часткі апошняга паведамленьня з Масквы жонкі акадэміка Сахарава пра стан М. Кукабакі з заклікам дапамагчы яму (Кукабака цяпер хворы); супольнае адсьпяваньне малітвы «Магутны Божа»; ды іншае.

Камітэт Абароны вельмі просіць Вас і ўсіх Вашых знаёмых узяць асабісты ўдзел у дэманстрацыі (пажадана, каб як мага больш людзей было ў нацыянальнай вопратцы; будзем старацца забясьпечыць карэспандэнтаў з тэлебачаньня й друку).

---

[119] Dag Hammarskjold Plaza (анг.) — грамадскі парк на Манхэтэне ў Нью-Ёрку каля штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Названы ў гонар шведскага палітыка Дага Хамаршэльда (1905–1961), Генеральнага сакратара ААН у 1953–1961 гг.

Камітэт Абароны адначасна зварачаецца з просьбай да ўсіх гіерархаў, парахвіяў і сьвятароў, да царкоўных радаў і прыхаджанаў, адслужыць малебны ў нядзелю 21-га за здароўе хворага й паняволенага брата ў Хрысьце Міхала Кукабакі ды ўсіх, хто церпіць ад перасьледу савецкай «турмы народаў».

Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі будзе таксама ўдзячны Вам за прысланьне грашовае ахвяры (на вышэй пададзены адрыс; на чэку стаўце толькі першыя літары назову арганізацыі: CDPCB), паколькі справа абароны вязьняў сумленьня вымагае грошай на пакрыцьцё паштовых, друкарскіх ды іншых канцылярскіх выдаткаў.

Ад імя Камітэту Абароны

Янка Запруднік[120]

***

**Міхал Кукабака**[121]

Дэманстрацыя на абарону Міхала Кукабакі 21-га чырвеня 1981 г. (нядзеля 2 гадз. п/п) у Мангатэне на Гамаршыльд Пляза (47 вул. Іст паміж 1-й і 2-й Авэню). Сабвэйны[122] супынак: Гранд Сэнтрал Стэйшэн[123].

21 чырвеня спаўняюцца 2-я ўгодкі ад асуджэньня ў Бабруйску беларускага іншадумца й патрыёта Міхася Кукабакі на тры гады турмы за пашырэньне тэксту Ўнівэрсальнае Дэкларацыі Правоў Чалавека, за абарону беларускае мовы, за веру ў Бога, за адмову ад савецкага грамадзянства й жаданьне выэміграваць з СССР.

---

[120] Паведамленні з заклікам прыйсці на дэманстрацыю былі апублікаваныя ў газетах: «Беларус» (1981. Травень (№ 289)), «Новое русское слово» (19.06.1981), «Новый Американец» (1981. 21–27 июня (№ 71)).

[121] Беларус. 1981. Травень (№ 289). С. 1; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 58–59.

[122] Ад анг. subway — метро, падземка.

[123] Анг. Grand Central Station.

Жонка акадэміка Андрэя Сахарава Елена Бонэр[124] у вапошнім дакумэньце пра Кукабаку (Масква, 23.XII.1980) піша: «Міхал Кукабака патрабуе дапамогі. Ён — сірата, сям'ю страціў у часе вайны. Ён — працоўны чалавек. Ён — жывы, разумны й добры чалавек. Хочацца верыць, што людзі ў розных краёх сьвету таксама не застануцца абыякавымі да ягонае долі ды пастараюцца дапамагчы яму».

Ня будзьце абыякавымі, падтрымайце справу абароны Міхася Кукабакі!

*Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі.*

***

**У вабарону Міхала Кукабакі[125]**

Дэманстрацыя

У нядзелю 21-га чырвеня, роўна на другія ўгодкі ад незаконнага засуджэньня ў гор. Бабруйску на Беларусі іншадумца Міхала Кукабакі на тры гады зьняволеньня, у Нью Ёрку ля будынку ААН адбылася дэманстрацыя за вызваленьне Кукабакі. Ладзіў дэманстрацыю Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі.

Напярэдадні дэманстрацыі пра яе паведамілі газэты «Беларус», «Новое Русское Слово»[126] (у колькіх нумарох, зь няведамай дасюль фатаграфіяй Кукабакі), украінская «Свабода»[127] (у англамоўным вы-

---

[124] Алена Бонэр (руск. Елена Боннэр, 1923–2011), савецкая і расійская грамадская дзяячка, праваабаронца, дысідэнтка, жонка Андрэя Сахарава.

[125] Беларус. 1981. Чырвень–ліпень (№ 290–291). С. 1; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 59–62.

[126] «Новое Русское Слово» — рускамоўная газета, што выходзіла ў Нью-Ёрку ў 1910–2010 гг.

[127] «Свабода» — украінская газета ў ЗША. Выходзіць ад 1893 г.

даньні), «Новый Американец»[128], «Новая газета»[129], польская радыяпраграма «Два Эдварды». Былі парассыланыя прэсавыя камунікаты ў галоўныя амэрыканскія газэты.

Мітынг на Пляцы ймя Гамаршэльда ля будынку Аб'еднаных Нацыяў, у якім узяло ўдзел каля 150 асобаў, пачаўся а 2:30 папаўдні. Вёў яго др. В. Кіпель[130].

---

[128] «Новый Американец» — штотыднёвая руская газета, што выходзіла ў Нью-Ёрку ў 1980–1982 гг. Сярод яе стваральнікаў былі эмігранты Сяргей Даўлатаў, Пётр Вайль і іншыя.

[129] «Новая газета» («New Gazette») — руская эміграцыйная газета, што выдавалася ў Нью-Ёрку ў 1980–1983 гг.

[130] Вітаўт Кіпель (нар. 1928), грамадскі дзеяч, навуковец, доктар мінералогіі, даследчык беларускай эміграцыі. Ад 1955 г. жыве ў ЗША. Працаваў у навукова-вытворчых фірмах, у Балтымарскім універсітэце (штат Мэрыленд). У 1959–1985 гг. — у Даследчым цэнтры навукі і тэхналогіі Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі (у т. л. на пасадзе выканаўчага дырэктара). У 1962–1963 гг. вучыўся ў Ратгерскім універсітэце (Нью-Джэрсі) па спецыяльнасці «Бібліятэказнаўства». Лідар беларускага рэспубліканскага руху. У 1972–1982 гг. — старшыня Федэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клубаў. У 1974 г. абраны на старшыню Рэспубліканскай федэрацыі штата Нью-Джэрсі. Рэдактар газеты нью-джэрсійскіх рэспубліканцаў Heritage Review. Заснавальнік і дырэктар беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі (1976–1979). У 1972 г. у Вашынгтоне абраны на заступніка старшыні Нацыянальнай канфедэрацыі амерыканскіх этнічных груп. У 1975 г. узнагароджаны медалём Паняволеных народаў Эйзенхаўэра. У 1978–1982 гг. — старшыня Этнічнай рады штата Нью-Джэрсі. Ад 1982 г. — старшыня БІНіМа. Аўтар працы «Беларусы ў ЗША» (1993 г.; англамоўнае выданне 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацый, у т. л. артыкулаў беларусазнаўчай тэматыкі ў амерыканскіх энцыклапедыях.

Архіепіскап БАПЦ Мікалай[131] у прысутнасьці а. Архімандрыта Язэпа Строка[132] і а. Аляксандра Яноўскага[133] адправіў малебен за здароўе і вызваленьне хворага паняволенага Міхала Кукабакі. Усюды па беларускіх цэрквах на эміграцыі ў гэты дзень адбыліся падобныя службы.

Прамаўлялі на мітынгу: др. В. Кіпель, сп. Янка Ханенка, старшыня Камітэту Абароны, сп. Рыгор Хес, актывісты гэбрайскага руху ў Менску, які колькі дзён перад тым прыбыў у Амэрыку і асабіста ведае Кукаба-

---

[131] Мікалай (свецк. Міхась Мацукевіч, 1917–2002), рэлігійны дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У жніўні 1951 г. пераехаў у Таронта (Канада), а пазней — у Вініпег, дзе вучыўся ва Украінскай багаслоўскай акадэміі (калегіі). 06.05.1952 рукапакладзены на святара. Быў настаяцелем прыхода Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта, наведваў беларускія асяродкі ў Садбуры, Манрэалі, Лондане, Кітчэнеры, Гвэлфе, Бэры, Брантфардзе, Атаве, Алістане ды інш. У 1968 у Адэлаідзе (Паўднёвая Аўстралія) хіратанісаваны галавой БАПЦ Сяргеем у епіскапа Турава-Пінскага і Таронцкага з імем Мікалай. У 1973 г. на Саборы БАПЦ узначаліў Канадска-еўрапейскую епархію БАПЦ. Удзельнік расколу БАПЦ у 1980-я гг., калі на Надзвычайным саборы БАПЦ у Кліўлендзе (Агаё, ЗША) у 1983 г. быў абраны першым іерархам БАПЦ (паўторна абраны таксама ў 1984 г. на III Саборы БАПЦ). Спрычыніўся да пераводу багаслужбаў і перакладу літургічных кніг на беларускую мову.

[132] Язэп Строк (1904–1990), праваслаўны дзеяч, святар, архімандрыт. Ад канца 1960-х гг. жыў у ЗША, быў настаяцелем царквы Св. Юрыя ў Чыкага. Ад 1980-х жыў у Свята-Ціханаўскім манастыры ў Пенсільваніі.

[133] Аляксандр Яноўскі (? — ?), рэлігійны дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў святаром парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку. Яго пазнейшы перавод у Кліўленд спрычыніўся да паглыблення крызісу ў БАПЦ.

ку; сп-ня др. В. Калынык ад Амэрыканцаў за вызваленьне паняволеных народаў і ад Украінскага Кангрэсавага Камітэту; сп. А. Насовіч[134], юрыст.

Юрка Кіпель[135] і Вера Запруднік[136] прачыталі, па-беларуску й па-ангельску, урывак з абароннае прамовы Міхала Кукабакі, сказанае ім на судзе ў Бабруйску 21-га чырвеня 1979 году.

Удзельнікі дэманстрацыі падпісалі пэтыцыю да дзяржаўнага сакратара Злучаных Штатаў Аляксандра Гэйга[137] з просьбай зрабіць усё магчымае перад урадамі Савецкага Саюзу й Беларускае ССР, каб Міхалу Кукабаку была дадзеная магчымасьць выехаць на Захад. Подпісы пад пэтыцыяй зьбіралі Таня Заморская[138] й Павал ды Коля Рамана[139].

---

[134] Маецца на ўвазе Аркадзь Рутман (псеўд. Насовіч), юрыст. Здолеў выехаць з СССР у ЗША, у беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода» на пачатку 1980-х гг. вёў праграму «Ты і закон».

[135] Юрка Кіпель (нар. 1958), грамадскі дзеяч, доктар медыцыны, сын В. і З. Кіпеляў. У 1982 г. скончыў медыцынскі факультэт Ратгерскага ўніверсітэта. Працуе як педыятр-кардыёлаг, сябра Амерыканскай акадэміі педыятрыі, Амерыканскай калегіі кардыялогіі. Удзельнічаў у выданні часопіса «Беларуская моладзь», танцаваў у гурце «Васілёк». Разам з Натай Русак кіраваў дзіцячай танцавальнай групай «Матылькі». Быў актыўным у амерыканскім скаўтынгу. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання. У 1991 г. прывозіў у Беларусь гуманітарную дапамогу ад беларусаў ЗША. Жыве ў Нью-Джэрсі.

[136] Вера Запруднік (нар. 1957), дачка Янкі Запрудніка.

[137] Аляксандр Хэйг (анг. Alexander Meigs Haig, Jr., 1924–2010), амерыканскі ваенны і дзяржаўны дзеяч, дыпламат. У 1981–1982 гг. быў Дзяржаўным сакратаром ЗША.

[138] Таня Заморская (нар. 1968?), дачка беларускіх эмігрантаў у ЗША Веры і Міколы Заморскіх.

[139] Маюцца на ўвазе сыны Алы Орса-Рамана.

Кангрэсмэн Ўільям Грын[140] з Мангатэну зьмясьціў прэсавы камунікат Камітэту Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі пра дэманстрацыю й Міхала Кукабаку ў «Конгрэшэнал Рэкорд», афіцыйным выданьні Кангрэсу ЗША.

Сп. Вітаўт Тумаш малодшы[141] забясьпечыў на мітынг гукаўзмацняльную сыстэму. Галоўны плякат для дэманстрацыі выканала сп-ня Ірэна Дутко[142]. Сп. М. Заморскі[143] запісаў дэманстрацыю на відэаістужку.

***

## У вабарону Міхала Кукабакі[144]

17-га верасьня ў Лёндане (Ангельшчына) перад будынкам савецкага пасольства была праведзеная дэманстрацыя за вызваленьне з савецкае турмы Міхала Кукабакі, Беларуса-іншадумца. Ладзіла дэманстрацыю Амнэсты Інтэрнэшэнал і трывала яна ад гадзіны 8-й ураньні аж да гадзіны 8-й вечара. Сябры гэтай міжнароднай арганізацыі стаялі перад пасольствам, трымаючы партрэты М. Кукабакі й плякаты з напісамі па-ангельску «Звольніце Міхала Кукабаку» (быў плякат з гэткім-жа напісам і ў расейскай мове).

На падтрыманьне Амнэсты Інтэрнэшэнал прыбылі й мы, Беларусы, каб выканаць свой маральны абавя-

---

[140] Уільям Грын (анг. Sedgwick William “Bill” Green, 1929–2002), амерыканскі палітычны дзеяч-рэспубліканец. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Кангрэса ЗША ў 1979–1993 гг.

[141] Вітаўт Джордж Тумаш (1946–2006), сын эміграцыйнага грамадскага дзеяча, скарыназнаўцы Вітаўта Тумаша.

[142] Ірэна Рагалевіч-Дутко (нар. 1942), грамадская дзяячка, мастачка. Жыве ў ЗША.

[143] Відаць, маецца на ўвазе Мікола Заморскі (1924–1989), грамадскі дзеяч, актыўны ўдзельнік амерыканскага Камітэта абароны вязняў сумлення ў Беларусі.

[144] Беларус. 1981. Кастрычнік (№ 293). С. 1; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны... С. 62–64.

зак перад сваім дарагім суродзічам, далучыўшы вялізарнага памеру плякат у ангельскай мове — «Звольніце Міхала Кукабаку, беларускага іншадумца».

Было прыгатавана колькі тысячаў лістовак з заклікам памагчы вызваліць Кукабаку ды зь ягонай фатаграфіяй, якія былі раздаваныя праходжым лёнданцам. Шмат хто зь іх, пабачыўшы вялікі плякат з назовам «Byelorussian», затрымваўся, іх цікавіла нацыянальнасьць, краіна паходжаньня іншадумца М. Кукабакі. Людзі падпісвалі пэтыцыі: адну савецкаму паслу, другую мясцоваму савецкаму пракурору з копіямі Брэжневу й генэральнаму пракурору СССР Ракункову[145].

Падобныя дэманстрацыі плянаваліся на той-жа дзень у Даніі і Аўстрыі. Колькасьць удзельнікаў дэманстрацыі мянялася, але сягала часамі да больш як 25 асобаў. Дзень быў працоўны, і шмат удзельнікаў прыбыло ўжо пад вечар.

Сярод удзельнікаў дэманстрацыі быў і доктар-псыхіятар А. Валашановіч[146], які выехаў з СССР у лютым сёлета ды прыйшоў, каб асабіста ўшанаваць, як ён выразіўся, «вялікага чалавека Міхала Кукабаку», зь якім ён сустрэўся ў Маскве. Прыбылі на дэманстрацыю й прадстаўнікі ад рэлігійных ды сьвецкіх установаў Лёндану.

Мы, Беларусы, чуліся ўзмоцнены духам, назіраючы, як жанчыны чэскае, вугорскае ды польскае нацыянальнасьці стаялі з партрэтамі М. Кукабакі. Мы вельмі

---

[145] Аляксандр Ракункоў (рус. Александр Рекунков, 1920–1996), савецкі юрыст. У 1981–1988 гг. — Генеральны пракурор СССР.

[146] Аляксандр Валашановіч (рус. Александр Волошанович, нар. 1941), псіхіятр, праваабаронца. Ад 1977 г. выступаў кансультантам Працоўнай камісіі па расследаванні ўжывання псіхіятрыі з палітычнымі мэтамі. Праводзіў уласныя абследаванні палітычных зняволеных, прызнаных псіхічна хворымі, і выказваў нязгоду з прынятымі афіцыйнымі псіхіятрычнымі службамі рашэннямі. У выніку ціску ў 1980 г. эміграваў з СССР.

ўдзячныя арганізатарам дэманстрацыі, асабліва сп-ні Рывэ Бэрман, сп-чне Караляйн Пэковэр ды сп. Чарльсу Рабы, а таксама студэнтам і студэнткам ды ўсім, хто спрычыніўся да паданьня голасу за свабоду беларускага вязьню сумленьня, дарагому суродзічу Міхасю Кукабаку.

*А. Здановіч*[147]

***

**У вабарону М. Кукабакі**[148]

Як падае лёнданскі «Таймс» (22.V.82), на Захад трапіў з Савецкага Саюзу зварот ад неафіцыйнае прафсаюзнае арганізацыі СМОТ[149] з просьбай аб дапамозе беларускаму вязьню сумленьня Міхалу Кукабаку, якога трымаюць ад 16 красавіка сёлета ў маскоўскім Інстытуце Судовае Псыхіятрыі імя Сербскага.

---

147 Аляксандр Жданковіч (Зданковіч) (1924–1996), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лондане. Ад 1947 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазіцыі і выйшаў з арганізацыі. Ад 1948 г. быў сябрам Хрысціянскага аб'яднання беларускіх работнікаў, уваходзіў у Часовую ўправу арганізацыі, быў першым старшынём Лонданскага акруговага цэнтра. Цягам усяго існавання ХАБР уваходзіў у Галоўную ўправу. У 1962 г. стаў стваральнікам беларускай школкі ў Лондане. Ад 1956 г. уваходзіў у Краёвы штаб Беларускага вызвольнага фронту, у сярэдзіне 1960-х гг. спрабаваў адрадзіць дзейнасць лонданскага асяродку БВФ. У 1972 г. вярнуўся ў ЗБВБ, пастаянна абіраўся ў Галоўную ўправу, быў намеснікам старшыні, сакратаром, у 1995 г. быў абраны на пасаду старшыні.

148 Беларус. 1982. Чырвень–ліпень (№ 301–302). С. 5; Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны… С. 64.

149 Свободное межпрофессиональное объединение трудящихся (СМОТ) — адна з першых спробаў стварэння ў СССР незалежных прафсаюзаў. Зарганізавана ў 1978 г.

Лёнданскі аддзел Амнэсты Інтэрнэшэнал ладзіў 1-га ліпеня сёлета дэманстрацыю перад савецкім пасольствам у Лёндане, дамагаючыся звальненьня з «псыхушкі» М. Кукабакі, чалавека зусім нармальнага, і дазволу яму выехаць на Захад.

***

**АС № 4770[150]. Сообщение о процессе Михаила Кукобаки в Липецком облсуде 11-13.8.82 (без места, вскоре после 13.8.82)[151]**

11–13 августа областной суд г. Липецка[152] приговорил рабочего Михаила Игнатьевича КУКОБАКУ, 1936 г. р., к трем годам заключения в колонии строгого режима по ст. 190-1 УК РСФСР. Это третий срок его заключения. Предварительно, весной 1982 г., он был подвергнут экспертизе в Ин-те им. Сербского, где комиссией в составе проф. КАЧАЕВА, к-та мед. наук ПОДРЕЗОВА[153] и врача ПОТАПОВА был признан вменяемым (в 1971–1975 гг. КУКОБАКА по решению суда подвергался принудительному лечению в Сычевской СПБ; в 1978 г., арестованный[154] по ст. 186-1 УК БССР, он был вновь направлен на экспертизу в Ин-т им. Сербского, но признан вменяемым и отправлен для отбывания срока в Новополоцкий лагерь — учр. 25/10[155], где к концу трех-

[150] Копія дакумента захоўваецца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.

[151] *Перепечатка с фотокопии оригинала из АС.*

[152] *Т. е. Липецкий облсуд.*

[153] *В получ. копии м. б. опечатка и следует читать «Подрезовой», т. е. Людмила Л. Подрезова, ст. науч. сотр. ин-та; в марте 1979 — член СПЭК по делу В. Зайцева (АС № 3738:18).*

[154] *19.10.78 в Бобруйске (АС № 4209:1); о суде 20–21.6.79 см. Хр. 53:56–60.*

[155] *В получ. копии здесь и далее опечатка, след. читать «15/10» — укр. УЖ-15/10, г. Новополоцк, Витебская обл.*

летнего срока было возбуждено новое дело по ст. 190-1 УК РСФСР[156]).

Председательствовал в суде КОТОВ, прокурор ЧЕРНЫШЕВ, официально назначенный адвокат, от услуг которого подсудимый отказался, — ФИНКЕЛЬШТЕЙН. Ходатайство подсудимого о затребовании документов из его личного лагерного дела, на основе которых он мог бы осуществлять свою защиту, суд отклонил. Из 14 свидетелей 7 отсутствовали и были представлены письменными показаниями, данными на следствии (из них БЕЛОУСОВ, ДИБЕЛА, КОВРОВ, ЛОМАКИН[157], ПАНАДА — заключенные учр. 25/10, и КОМАРОВ — уже отбывший срок заключения там же). Из 7 присутствовавших свидетелей четверо — заключенные того же учр.: АМЕЛЬЯНЧИК (хулиганство, 6 лет), ГУКОВ (ЧУКОВ?)[158], Л. МАРЧЕНКО (ст. 206 УК[159] РСФСР), СНИТЬКО и двое — судимые за воровство и хулиганство заключенные Елецкой тюрьмы ДУХЛИК и ХВАТКОВ; седьмой — замполит учр. 25/10 майор БОЯРЧЕНКО.

По прочтении обвинительного заключения, где говорилось о распространении КУКОБАКОЙ среди уголовников «заведомо ложных измышлений», КУКОБАКА отказался признать себя виновным.

Судебное расследование начали с допроса обвиняемого, заявившего, что он практически не общался с другими заключенными-уголовниками, т. е. и со свидетелями, показания которых вымышленные и даны под давлением. Себя он характеризовал как убежденного антитоталитариста, антикоммуниста, подкрепляя свое определение советского строя соответствующими аргу-

---

[156] *Вернее, в тюрьме г. Ельца Липецкой обл. в сент. 1981; сюда он был переведен в мае 1981 (АС № 4723:1).*

[157] *Сергей Ломакин (там же).*

[158] *Юрий ГУКОВ (там же).*

[159] *«Хулиганство»; в получ. копии «УПК» — опечатка.*

ментами. При допросе свидетеля ГУКОВА (ЧУКОВА?) КУКОБАКА сделал заявление, что последний сидел вместе с ним в так называемой пресс-камере и вместе с другими заключенными избивал его, пытаясь таким образом добиться от него покаянного заявления. На вопрос судьи, обращенный к ГУКОВУ (ЧУКОВУ?), последний заверил, что ничего подобного не было. Из других свидетельских показаний следует отметить показания ХВАТКОВА, отказавшегося от сказанного им на следствии, т. к. на него оказывали давление.

Прокурор потребовал заключения на 3 года в лагерь строгого режима. Подсудимый от защитительной речи отказался, в последнем же слове подробно изложил свои убеждения и подчеркнул, что за них именно его и судят, тогда как убеждения и «заведомо ложные измышления» (ст. 190-1) — вещи разные. Поэтому-то он и считает себя «вечным узником» КГБ.

***

**9753**[160]

**3**

**Тэма: ДЗЕНЬ ГАЛАДОЎКІ МІХАЛА КУКАБАКІ**

Час: 4:32

9.XII.82

Штогоду на працягу свайго зьняволеньня дні 30-га кастрычніка й 10-га сьнежня беларускі іншадумец і вязень сумленьня Міхал Кукабака адзначае галадоўкай. Гэтак было й сёлета. Адзначаем гэтак 10-га сьнежня і мы. З нататкай пра Міхала Кукабаку ля мікрафону Арсень Загорны[161].

А.З.: У сваім апошнім лісьце да няведамага адрасата, напісаным Міхалам Кукабакам недзе каля 17-га

---

[160] Скрыпт перадачы для Радыё «Свабода». Захоўваецца ў фондзе Янкі Запрудніка ў БДАМЛМ.

[161] Арсень Загорны — псеўданім Янкі Запрудніка.

